
Служыць Богу і людзям→3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Беларускі хор→8


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 29 (2984) Год LVIII | Беласток, 21 ліпеня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**Іхні „Teleekspress” на ютубе мае некалькі тысяч выяваў. Пішуць ім фанаты з усяго свету. Іх творчасць ведаюць жыхары Дуброўшчыны, Гайнаўшчыны, людзі з Ліпска, а нават з Чыкага. Некаторых абурае, іншых смешыць. Радыё „Хлеў” існуе ўжо семнаццаць гадоў і надалей выклікае многа супярэчнасцей.**

# Радыё ці хлеў?

RADIO CHLEW



A NU JAHO !

KÓLTÓRA MUSI BYĆ

Фота: www.radiochlew.pl

У 1996 годзе ў мястэчку Дуброва-Беластоцкая ліцэісты, якія ўважліва прыглядаліся жыццю акалічных сялян і штораз лепш карысталіся мясцовай гаворкай, вырашылі заснаваць першае непублічнае радыё, якое вяшчала б з Дубровы. Радыё „Хлеў”, так назвалі сваю кабарэ-суполку хлопцы, на пачатку маглі пачуць у эфіры людзі, якія знаходзіліся ў радыусе 15 кіламетраў ад Дубровы. Увечары паддуброўскія фанаты Радыё „Марыя” на гэтых жа хвалях мусілі слухаць кароценькіх праграм, падрыхтаваных Лешкам, Артурам і Данелем. Мэта новапаўсталага радыё была такая, каб рассмяшыць жыхароў навакольля жартамі, песнямі, якія высмейваюць менавіта іх саміх. Досціпы Радыё „Хлеў” аднак смешаць нераўнамерна. Некаторыя смяюцца з іх праграм, падкрэсліваючы, што гэта найлепшая кабарэ-група ў Польшчы, іншыя лічаць іх пароды́і малакультурнымі, на нізкім інтэлектуальным узроўні, якія абражаюць мясцовую гаворку, а перадусім людзей.

Калі ідзе пра творчасць, у многіх пародыях іх аўтарства закранута тэма вёскі. Напрыклад вёскі, якая абязлюджваецца — „Wioska moja kachana”. Тут апісана гісторыя аднаго селяніна, які пакінуў свае Бутрымоўцы (Polie zastawił, da miasta zwiał, razrzutnik sprzedał), але пасля непрыемных сітуацый, якія сустрэлі яго ў горадзе, сутыкаецца з настальгіяй па родных старонках (wrócił na wioske, nie wiem dlaczego, tu żyć mi trzeba drohi kalieho, hektary robić każdego dnia). У тэкстах песні паказанае таксама сялянскае жыццё ў адпаведнасці са зменамі пораў года (mamy teraz wiosne w wioscy Butrymowce, /znowu pryjszło lato, można srać za chato, hurkou smacznych sobie zjeść i pareczak kilo sześć / kiedy idzie jesień bulbu treba kopać / nu i pryszła zima i abucia ni ma / kalesony treba kupić i da pieczki padłażyć). З твораў РХ даведаемся як выглядае жыццё вясковай прыгажуні (mieszkam w lepiance u wioscy Kuriance) „Barbie z wioski”, якая карыстаецца папулярнасцю ў мужчын. І як менавіта праводзіць час малады мужчына „Wiejski kulturysta”. Тут культурыст свабодны час праводзіць у асноўным у рамізе, дзе гуляе са „sztachietaj” у далонях. Ва ўсіх песнях РХ мараль настолькі нескладаная, што іх тлумачэнне было б абразай здагадлівасці чытача. Увогуле свет, прадстаўлены ў песнях РХ, гэта вёска, хата, стадола, хлеў, крама гмiннага кааператыва, раміза. Менавіта там героі кабарэ-песень праводзяць час і якраз гэтыя месцы становяцца найбольш важнымі ў іх жыцці. Таксама часта ўзгадваным месцам сустрэч і пацехі з'яўляецца штотыднёвы рынак у Дуброве, на які можна даехаць канём і фурай альбо аўтобусам ПКС (Mietek, Czesiek, Cześka syn, dziedko, baćko, mandaryn wstajo z łauki wszystkie gdy, PKS nadjeżdża i ... stary, brudny PKS pa żwiroucy chutko pre, / weź i pahlań może dzieś u twej wioscy też u razkładzi jest da miasta PKS). Агулам усяго больш за 150 твораў.

Кожная песня Радыё „Хлеў” паўстае паводле адной схемы. Хлопцы выбіраюць твор з дыскаў вядомых беларускіх або польскіх песень, пасля да мелодыі прыдумваюць словы, у якіх закранутая тэма паддуброўскай вёскі. Можна сказаць, што напісаныя імі тэксты не з'яўляюцца складанымі, а іх сэнс абмяжоўваецца да мінімуму. Адначасова ў гэтых тэкстах змешчаны непасрэдныя звароты да слухача і адкліканне да яго штодзённасці вядзе да ідэнтыфікацыі з лірычным суб'ектам. У многіх творах паяўляюцца назвы вёсак Ячна, Біты Камень, Шушалева, Пакосна, а нават рэальныя постаці як Зянон Грыневіч. Варта згадаць што РХ пускае ў эфір не толькі апрацоўкі песень, але таксама інтэрв'ю, парады, рэцэпты на вясковыя стравы, а нават пажаданні. Аказваецца, галоўным элементам, які аб'ядноўвае вакол Радыё „Хлеў” многіх слухачоў, з'яўляецца беларуская гаворка. Мацей Худэцкі, студэнт беластоцкага політэхнічнага інстытута, родам са Старой Каменнай, лічыць РХ найлепшай кабарэ-групай у Польшчы: „Слухаю Радыё „Хлеў” таму, што падабаюцца мне іхнія песні. Увогуле я сам родам з гэтых старонак, адкуль заснавальнікі РХ. Прыемна пачуць сваю гаворку, таму шаную РХ за тое, што яны не саромяцца карыстацца ёю, а нават распаўсюджваюць мясцовы дыялект. Па-мойму, лепш слухаць РХ і паправіць сабе настрой, чым глядзець жаласныя кабарэ па тэлебачанні”.

РХ захапляюцца таксама асобы, якія ўжо не ведаюць паддуброўскай вёскі. Радаслаў Юшчук жыве ў Шчэціне, тут вучыцца на тэхналагічным універсітэце. Творчасць хлопцаў вядомая яму з самага пачатку існавання РХ. „Жыхары горада, а таксама вёскі, слухаюць іх музыку. Я ніколі не чуў нічога дрэннага аб РХ. Дыялект, які выкарыстоўваецца ў іх песнях, проста геніяльны. Нават калі здараецца, што тэкст маласмешны, гэтая мова прычыняецца да таго, што і так смяешся”.

Аб гэтым як многа супярэчнасцей выклікае творчасць Радыё „Хлеў”, сведчыць мнагалікасць каментараў на сайце iSokolka.eu. „Najpopularniejsi artyści z powiatu” — так гучаў загаловак артыкула. І так Радыё „Хлеў” прымусіла некаторых жыхароў Сакольшчыны да канструктыўных рэфлексій. „Jestem w stanie zrozumieć tych, co im się podoba... to mowa naszych dziadów. Sama pamiętam, że mój dziadek i ojciec mówili w jakiś podobny sposób, wiec odbieram to jak rozpaczliwą walkę o zachowanie mowy dziadów... dla osób, które znają taką mowę, jest to pewnie wieśniactwo, ale dla tych, którzy już nie znają... a my już nie potrafimy...”.

Дыджэй Скварка стварае да сёння і з'яўляецца членам рэдакцыі Радыё „Хлеў”. Сам родам з Дубровы, але ягоныя дзяды жывуць у навакольных вёсках. Адгэтуль, як гаворыць, чэрпае веды пра рэчаіснасць, у якой жывуць мясцовыя сяляне. Апрача таго, калісь займаўся продажам аўдыёкасет на дуброўскім рынку. У размове са мной карыстаецца толькі беларускай гаворкай. Гэта ён узбагаціў творчасць Радыё „Хлеў” на такія хіты як „Pekaes”, „Sama smakata” ці „Heto my, rolniki”. Як гаворыць, не думае аб гэтым, каб завяршыць сваю дзейнасць, хоча надалей „rabić bahno na anteni”.

Каб выказваць меркаванні аб чымсьці, трэба гэта раней пазнаць. Пагляды на творчасць РХ напэўна розныя, аднак веру ў гэта, што чытачы, дзякуючы гэтаму тэксту, збураць звычны мур і на гэтае месца пабудуюць новы, незалежна ці сябро́ўскі, ці варожы, але ўласны, абапёрты на веды, якія дазволяць глядзець па-над масавымі ўяўленнямі.

**Уршуля ШУБЗДА**








# Нязменная натура

На адкрыццё новага гандлёвага дома ў цэнтры Брэста збеглася ажно 5 тысяч чалавек. Усё б нічога, каб не прычына такога рэдкага масавага ажыятажу, прычым у дажджлівы дзень. Цяжка паверыць, але гэтыя пяць тысяч насельнікаў горада над Бугам (зрэшты, падобнае адбываецца і ў іншых населеных пунктах) дзве гадзіны душыліся ў натоўпе дзеля цукерак, якія раскідвалі зверху ўладальнікі новастворанага гіпермаркета. Рэкламную акцыю арганізатараў новага гандлёвага цэнтра зразумець проста — гэта бізнес і такая „раскрутка" свайго маркета цалкам лагічная. А вось што рухае тысячамі чалавек, якія па сутнасці рызыкуюць сваім здароўем і нават жыццём, бо ў такой цісканіне непазбежна ўзнікае пагроза, зразумець складана. Укласці ў мазгі нармальнага чалавека асэнсаванне такой з'явы надзвычай цяжка. Прагненне „халявы" ў нашым грамадстве становіцца такім паталагічным, што яно слепіць людзей. Вось і ляцяць як з галоднага краю — было раней такое трапнае народнае выслоўе. Здаецца, і голаду няма, вайна скончылася амаль семдзесят гадоў таму, а яны ўсё пруцца ў гэтыя чэргі. Калі не зойдзеш у які супермаркет — усюды натоўпы, усюды калейкі. Прытым могуць ехаць праз увесь горад, выдаць на бензін у два разы болей грошай, але каб толькі атрымаць нейкую дробную зніжку. Калі ўжо яны наядуцца і нап'юцца!? Чэргі, чэргі, усюды чэргі: пры консульствах, на памежных пераходах, у розных супермаркетах, на пошце і ў банках. Прытым людзям, як ім здаецца, не бракне розуму, дабрыні, спагады, вольнасці (пра гэта стараюцца не думаць), але мала каўбасы, гарэлкі, бульбы... Нязменная прырода натоўпу — хлеба і відовішчаў! А тое, што „не хлебам адзіным жыве чалавек", нібыта вядома ўсім, але адсунутае ўбок, адкладзенае на вечнае „заўтра", старанна прыбранае са спіса штодзённых праблем і клопатаў. Але ж усё матэрыяльнае зямное праміне надзвычай хутка, прамільгне паскоранай кінастужкай, спадзе і згніе як асеннее лісце. І тады ўжо нікуды не трэба будзе спяшацца, але будзе ўжо позна і безнадзейна. І ніхто не пацягне, не зможа ўзяць з сабой гэтыя дарагія машыны, раскошныя дамы, высокае службовае становішча, незлічоныя грошы, шыкоўную мэблю, калекцыі каштоўнасцей, мадэльнае адзенне...

Нядаўна слухаў я ўспаміны перакладчыка былых савецкіх кіраўнікоў — эпохі Мікіты Хрушчова і Леаніда Брэжнева. Найбольш у паводзінах вышэйшай наменклатуры тагачаснай дзяржавы ўражваў яе стыль мыслення. Вышэйшыя асобы часу кіравання апантаным „кукурузнікам" думалі, што будуць жыць і кіраваць да скачэння свету. Тое ж самае датычыла атачэння і Брэжнева. Людзі, на вачах якіх адбывалася змена ўлады шляхам „палацавага перавароту", літаральна праз пару гадоў зусім забыліся пра тое, што бачылі на свае вочы. Паводзілі яны сябе нібыта несмяротныя, якія будуць жыць і кіраваць да бясконцасці. Але вось лопне які-небудзь маленькі сасудзік у арганізме і вось ужо валакуць нагамі наперад чарговага ўладара і „бацьку народа", які яшчэ ўчора здаваўся многім і самому сабе ўсемагутным. І няважна куды валакуць — у маўзалей, крамлёўскую сцяну ці проста ў сырую зямлю. Зямны шлях скончыўся, наперадзе Вышэйшы суд... Але нязменная чалавечая натура. Глядзіш на сучасных палітыкаў вышэйшага роўню і ўражанне тое ж самае — думаюць, што будуць кіраваць нязменна і вечна. Адсюль і татальная карупцыя, прага кіраваць кожнай цаной, прычым не толькі ў пасттаталітарных дзяржавах, але і ў дэмакратычных краінах. Бо калі нават кіравацца чыста розумам — то красці, падманваць, фальшаваць вынікі выбараў, злоўжываць службовым становішчам — гэта атупленне, зацьменне мазгоў, гэта нявыгадна ўрэшце чалавеку. Бо ўсё патаемнае рана ці позна становіцца яўным і відавочным — і гэта працейшая ісціна нібыта вядомая ўсім. Рэчы і людзі ўрэшце становяцца на свае месцы. Але ж нязменная натура людзей на гэтым свеце...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# А Беласток?

Мой родны горад, мой любасны Беласток усё больш мяне палохае. А ў жаху я ад яго кепскай архітэктуры. Такая ў яго з моманту яго заснавання. І тая драўляная Баяраў, Скаруп, і тая аздобленая алебастрамі і мармурамі дзевятнаццацівечных будынін прамысловых нуварышаў: яўрэйскіх, рускіх, нямецкіх і польскіх — па Варшаўскай вуліцы і частках Сянкевіча і Ліпавай. Але і тая, пазнейшая, люмпен-камуністычная каркасная і бетонная архітэктура, якой канкрэтным узорам з'яўляецца аўтобусная станцыя, і цяперашняя, еўратрускаляская, са шкла і алюмінію, з найсучаснай операй у Польшчы — наперадзе і дзірай у бюджэце горада «ў азадку». Надалей нenайлепшага гатунку. Не выродлівая, але абы-якая як халопскія, абы-як зляпаныя «чваракі» пры панскім палацы Браніцкіх. З яго рафінаванымі агародамі і блізкім натуры Звярынцам. Усё, што пасля раскрышылася з усіх бакоў, што злямцавалася разбуральнымі войнамі і паспешнай адбудовай, што надкушана моллю раздзелаў і палітычных сістэм — гэта сапраўдны горад. Горад, які не можа акрыяць ад свайго мінулага — падпалацавых «чваракаў». Калісь сілкуючыся палякамі, габрэямі, беларусамі, украінцамі, татарамі і рускімі, пасля Другой сусветнай вайны элементам пушчанска-праваслаўных і тапляра-каталіцкіх вёсак, зараз іх нашчадкамі, якія вяртаюцца з дыпламамі польскіх і замежных універсітэтаў, са «змывакоў» у Англіі, з будпляцовак у Ірландыі, з плантацый цюльпанаў у Галандыі — адукаванымі, спрактыкаванымі ў інтэрнэце, прайдзісветамі і экспертамі ў галіне розных культур і ўсё яшчэ абцяжаранымі халопскім менталітэтам сваіх продкаў — часовых карыстальнікаў «чваракаў». Не зацікаўлены яны ў Беластоку. Не сагрэюць яны месца. Не прыжывуцца ў ім. Як калісьці халопы былі абыякавымі да брыдоты і пасрэднасці свайго асяроддзя, іхнія вочы арыентуюцца на агні ўяўных палацаў. Не вядуць сваіх сыноў па вуліцах успамінаў. Не паказваюць дочкам двароў свайго дзяцінства. Неўзабаве зменяць беластоцкія «чваракі» варшаўскае ці лонданскае сіці. Мінулае і будучыня Беластока ім абыякавая. Таму іх культурную адсутнасць замяняе халопская прысутнасць: нацыяналістаў, шавіністаў, расістаў, нацыяналаў і хуліганаў. І ад гэтага я ў жаху. Тым не менш, праблема заключаецца не ў тым, што тыя нашчадкі польскіх палякаў, беларусаў, украінцаў, рускіх і татараў раптам сталі наперадзе перад усёй грамадскасцю ў краіне з пункту гледжання нецалерантнасці, ксенафобіі, нацыяналізму і парафіяльнага патрыятызму. Спусташаючая краіну вайна за Польшчу (якой хочам?) паміж ГП і ПіС, вайна светапоглядаў падмацаваных палітычнымі і філасофскімі часовымі рацыямі, не толькі ў Беластоку пакідае папялішчы грамадзянскай салідарнасці, радыкалізуючы варожасць, павялічваючы недавер і эгаізм. Не толькі ў Беластоку разрывае гэта грамадскія сувязі, руйнуючы сетку сямейных і суседскіх залежнасцей, і, такім чынам, аслабляе тонкі кантроль грамады над экстрэмальнасцю стаўлення індывідаў. Так адбываецца ва ўсёй Польшчы. Але і гэта не з'яўляецца спецыфічна польскім, эндэмічным захворваннем. Гэта ахапіла ўвесь свет. Гэта ўжо пандэмія. Яшчэ таго не хочам прыкмеціць, не хочам чуць, але ўжо пэўна, што чалавецтва сутыкнулася з найгоршым крызісам у сваёй гісторыі. Ён дасягае глыбока ў нетры чалавечнасці. Адкуль мы прыйшлі? Хто мы? Куды мы ідзем? Гэтыя пытанні старыя як свет, у якім мы жывем. Але толькі цяпер яны патрабуюць, прытым вельмі настойліва, канкрэтных адказаў. Не толькі ад кожнага чалавека індывідуальна. Але і ад установаў: дзяржавы, хрысціянскіх і нехрысціянскіх веравызнанняў, міжнародных арганізацый, і, нарэшце, ад глабальных карпарацый, банкаў і фінансавых устаноў.

Справа ў тым, што ў маім Беластоку — горадзе, які быў сфармаваны на падмурку гарманічнага суіснавання прадстаўнікоў розных народаў, культур і рэлігій, бярэ верх эгаістычны, заўзяты ў сабе, абыякавы да іншых менталітэт халопаў. Людзей выкараненых са сваёй зямлі. Людзей выкараненых са сваёй гісторыі і тоеснасці. Людзей, якія ўступілі на шлях у нікуды. У Беластоку, як у крывым люстэрку, адлюстроўваецца ўвесь свет. Ці на самой справе засяляюць Зямлю толькі халопы? А Беласток?

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Няпоўны наратыў



Калі я апошні раз быў у Варшаве, адбылося там першае пасяджэнне, „прысвечанае роздумам над будучыняй Еўропы": „Новы наратыў для Еўропы". Прынялі ў ім удзел (11 ліпеня ў Навуковым цэнтры „Капернік") асабіста прэм'ер-міністр Польшчы Дональд Туск і старшыня Еўрапейскай камісіі Жазэ Мануэль Барозу, але перш за ўсё мастакі і навукоўцы з усёй Еўропы. Прэм'ер-міністр Польшчы заявіў, што ў цяперашні час у цэлай Еўропе неабходнае справядлівае размеркаванне адказнасці за яе. Жазэ Мануэль Барозу заявіў, што неабходна „ўдыхнуць новае жыццё ў еўрапейскі дух і стварыць сапраўдную еўрапейскую грамадскую прастору". Выказаў сваё меркаванне: „Толькі ўпэўненая ў сабе і адкрытая Еўропа змежа справіцца з глабалізацыяй".

У рамках гэтай ініцыятывы будуць арганізаваны яшчэ дзве сустрэчы з прадстаўнікамі свету культуры і навукі, па чарзе ў Францыі і Нямеччыне. Іх мэта заключаецца ў павышэнні ўдзелу еўрапейскіх інтэлектуалаў, мастакоў і навукоўцаў у доўгатэрміновай грамадскай дыскусіі аб Еўропе. У канцы цыкла павінна быць апублікавана дэкларацыя на тэму ўпісаную ў варшаўскую дэбату. Мае ўзнікнуць яна да выбараў у Еўрапейскі Парламент у 2014 годзе.

У рамках праекта „Новага наратыву для Еўропы" адбыліся ў Варшаве таксама абмеркаванні пад лозунгамі: „Мяккая сіла Еўропы: мастацтва, спадчына і навука", „Наша агульная гісторыя. Якія культурныя каштоўнасці нас аб'ядноўваюць", і „Вобраз і роля Еўропы ва ўмовах глабалізацыі свету, заснаванага на ўзаемазалежнасці". Заахвочваючы да дыскусіі на тэму „Наша агульная гісторыя", арганізатары напісалі ў праграме: „Найноўшая гісторыя паказвае, што Еўропа здольная да стварэння і распаўсюджвання асноўных каштоўнасцей, якія выходзяць за рамкі асобных дзяржаў. Дзякуючы гэтым каштоўнасцям мы змаглі адказаць на выклікі эпохі, аб'яднацца ў дзеянні і стварыць агульны расповед пра сябе. Але характар цяжкасцей, якія стаяць перад Еўропай, рэзка змяніўся ў апошнія гады, што паўплывала на свядомасць жыхароў кантынента і спрычынілася да таго, што грамадзяне Еўропы страцілі энтузіязм да актыўнага ўдзелу ў палітычнай і эканамічнай абшчыне (...). Мы павінны дакладна ведаць пра мінулы і цяперашні кшталт еўрапейскай сістэмы каштоўнасцей і задумацца над тым, якія каштоўнасці будуць нашым арыенцірам у будучыні, каб на гэтай падставе пабудаваць новае бачанне Еўропы".

У ходзе дыскусіі на тэму „Мяккая сіла Еўропы..." выканаўчы дырэктар Вялікага тэатра — Нацыянальнай оперы Вальдэмар Дамброўскі падкрэсліў: „Слова культура мае магічнае значэнне, але пры ўмове, што будзе ўведзенае ў адпаведнае месца, значыць, у дакументы ЕС".

Рэжысёрка Агнешка Холанд сказала: „У стратэгіі ЕС „Еўропа-2020" няма нічога пра культуру. Гэта паказвае, якое ў ЕС стаўленне да культуры. Калі хочам выратаваць Еўропу, нам трэба ствараць еўрапейскія праграмы ў падтрымку развіцця культуры". На яе думку, чым больш эканамічна аб'яднаная Еўропа, тым менш яна з'яднаная ў плане культуры.

У сваю чаргу Пэрэ Портабела, іспанскі рэжысёр і палітык, падкрэсліў, што Еўропа разнастайная і „мае патрэбу ў гэтай разнастайнасці".

У варшаўскай сустрэчы прынялі ўдзел каля двухсот пяцідзесяці чалавек з еўрапейскіх краін. Не запрасілі ні аднаго прадстаўніка свету навукі і культуры з Усходняй Еўропы, нават з краін Усходняга партнёрства. У мяне склалася адчуванне, што будучыня еўрапейскага наратыву няпоўная. Ва ўсякім выпадку, падобна выказаліся некаторыя VIP-персоны польскага свету культуры, з якімі я размаўляў пасля дэбатаў. Адзін з іх сказаў у кулуарах: „Важна адзначыць, што запрасілі беласкурых, якім за шэсцьдзесят, і што тут нязначнае прадстаўніцтва жанчын".

Аб будучыні еўрапейскага натарыву (за выключэннем усходняга вымярэння) дэбатавалі ў Варшаве крыху больш за чатыры гадзіны. Галоўным арганізатарам мерапрыемства была Еўрапейская камісія.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**


фота Аляксея МАРОЗА

## Размова з настаяцелем Праваслаўнага прыхода свсв. Кузьмы і Дзям'яна ў Рыбалах, доктарам, мітрафорным протаіерэем Рыгорам Сасной.

# У службе Богу і людзям

**— У прошлым годзе мінула 25 гадоў Вашай службы Богу і мясцовым людзям у Рыбалаўскім прыходзе, а раней Вы 25 гадоў былі на прыходзе ў Сямятычах. За гэты час удалося Вам многа зрабіць як у карысць мясцовых жыхароў, так і ў карысць праваслаўнага беларускага насельніцтва.**

— Рыбалаўскі прыход з'яўляецца маім трэцім прыходам, у якім я служу святаром. Пачаў я службу ў 1960 годзе на прыходзе ў Кодані (Kodeń) у Люблінскім ваяводстве. Пасля чатырохгадовай пабыўкі там, вярнуўся я на Беласточчыну і аж но на 25 гадоў затрымаўся ў Сямятычах, а чарговыя 25 гадоў выпала мне быць у Рыбалах. Паколькі, згодна з законамі, усё набліжаецца да канца, хацелася б аглянуцца назад і зрабіць перападлік мінулага.

**— Вашая пабыўка ў Рыбалаўскім прыходзе супала з адраджэннем рэлігійнага жыцця ў Польшчы. На тэрыторыі, дзе жывуць праваслаўныя вернікі, сталі будавацца новыя цэрквы і рамантавацца старыя храмы і часоўні.**

— Адраджэнне рэлігійнага жыцця адбылося ў Праваслаўнай царкве па ўсёй Польшчы. У Кодані я служыў у доме перарobленым на царкву. Зараз у Кодані, дзе ў 1938 годзе была разбурана царква, збудавалі прыгожы храм, а ў вёсках, што ў шасцідзесятых гадах належалі да гэтага прыхода, ёсць свае цэрквы або часоўні. Загораў (Zahorów), дзе ў 1938 годзе знішчылі царкву, стаў асобным прыходам са збудаванай царквой, у Капытаве (Kopytów) збудавалі царкву, а ў Альшанках (Olszanki) і Контах (Kąty) — часоўні. Успамінаю гэта не як сваю заслугу, а як прыклад вялікай Божай ласкі, дзякуючы якой адраджаецца Праваслаўная царква на землях, дзе праваслаўе было прыгаворана на знішчэнне. У Сямятычах прыйшлося мне служыць у вялікім паводле тэрыторыі прыходзе, які меў толькі адну царкву, у якую не ўмяшчаліся вернікі. Пасля 1989 года распачаўся спрыяльны час для пабудовы цэркваў і на нашых тэрыторыях. У Сямятычах паўстаў другі прыход з новазбудаванай царквой, а на тэрыторыі старога Сямятыцкага прыхода, у якім я служыў, паўсталі таксама прыходы ў Баратынцу і Рогаўцы, а апошнім часам паўстае новая царква і прыход у Слохах.

**— У Рыбалаўскім прыходзе Вы асабіста наглядалі за рамонтамі цэркваў і часоўняў.**

— Калі ў 1987 годзе прыбыў я ў Рыбалаўскі прыход, у састаў яго ўваходзілі 4 вёскі. Удалося адрамантаваць 2 царквы ў Рыбалах, адну царкву ў Паўлах, у Войшках дабудаваць званіцу да часоўні, а ў Канюках збудаваць новую часоўню на аснове жылога дома.

**— Аднак усе гэтыя змены ў Царкве супалі з масавым выездам жыхароў нашых вёсак у гарады. Як справы ў гэтым плане меліся ў Рыбалаўскім прыходзе?**

— Калі я ў 1987 годзе прыбыў у Рыбалаўскі прыход, было тут больш за 1200 вернікаў, а сёння і паловы прыхаджан ад гэтай колькасці няма. Калі я служыў у Сямятычах, то па вёсках сярод каталікоў быў такі прынцып, што прынамсі адно дзіця мусіла застацца дома і пераняць гаспадарку, каб было каму абрабляць зямлю. Нашыя праваслаўныя бацькі ў многіх выпадках у гэтым часе пасылалі ўсіх дзяцей вучыцца і прапанавалі ім застацца ў горадзе на пастаяннае жыхарства, бо лічылі, што ім там будзе лягчэй жыць, чым на вёсцы. У больш адлеглым мінулым Рыбалы былі настолькі мнагалюдным сялом, што на адным панадворку жылі нават па 3 сямейства і раздзялялі яны панадворкі ўпоперак, бо былі яны настолькі вузкімі, што немагчыма было дзяліць іх уздоўж. Зараз у нашых вёсках засталося жыць мала маладшых сямействаў. Ёсць у нашым прыходзе гаспадары, якія разгарнулі гадоўлю кароў, ці абрабляюць многа зямлі, але такіх гаспадароў мала. Можна сказаць, што ў многіх хатах у нашым прыходзе і іншых вёсках засталіся жыць дзед ды баба і курачка раба. Ужо няма такога сяла, якое я ведаў са свайго дзяцінства. Зараз можам сяло назваць вёскай-дачай, паколькі за многімі апусцелымі бацькаўскімі хатамі наглядаюць выхадцы з сяла, што жывуць у гарадах і прыязджаюць на бацькаўшчыну толькі на выхадныя, каб касіць траву, або нешта памайстраваць.

**— Калі маладыя людзі выязджаюць у гарады, а старэнькія хутка паміраюць, якая будучыня Вашаму прыходу і падобным на яго?**

— Усё ў Божых руках. Калі людзі вярталіся з бежанства, нашы вёскі таксама былі пустымі, а пасля адрадзіліся. Зараз супраць нашых вёсак працуе дэмаграфія, а ў народзе лічыцца, што дэмаграфію папраўляюць буслы, якіх штораз больш прыбывае да нас вясной і якія будуюць штораз больш гнёздаў у нашых вёсках. Аднак разглядаючы справу па-сур'ёзнаму, то покі мала асоб у Рыбалах і наваколлі рашылася прадаваць бацькаўскія хаты. Але змены будуць адбывацца нават у маштабе нашых краін, калі мы, славяне, не палепшым нашую дэмаграфію.

**— Вялікай задумай было стварэнне Музея матэрыяльнай культуры «Бацькаўшчына» ў Рыбалах, у якім Вы з матушкай Антанінай сабралі мноства экспанатаў, якімі раней карысталіся перадусім мясцовыя беларусы.**

— Спачатку паўстала ідэя, каб Падставовая школа ў Рыбалах, дзе вучылася ўжо толькі 35 дзетак, стала школай з дадатковым навучаннем беларускай мовы і ўсе вучні сталі там вучыцца беларускай мове. Калі аднак засталося 7 вучняў і 3 настаўнікі, школа была закрыта. Паколькі раней дзейнічала тут царкоўная школа, падумалі мы, каб пераняць яе для нашага прыхода і запрапанавалі арганізаваць музей матэрыяльнай культуры, якім бы мы апекаваліся. Усе 16 радных прагаласавалі за прапанову, каб стварыць музей нашай традыцыі і матэрыяльнай культуры. Прыхаджане сталі масава зносіць нам экспанаты: прылады працы і вырабы, якія сведчаць аб нашай матэрыяльнай культуры. Нашая школа — цяперашні музей «Бацькаўшчына» — жыве ў вымярэнні людской працы ў мінулым.

**— Як Вам удалося сабраць так вялікую колькасць экспанатаў, якія запоўнілі адносна вялікі, двухпавярховы школьны будынак?**

*На гэтае пытанне стала адказваць матушка* ***Антаніна Троц-Сасна****, якая асабіста апякуецца музеем, а раней разам з айцом Рыгорам аддала музейнай ідэі многа часу, збіраючы, кансервуючы і каталагізуючы экспанаты, арганізуючы паасобныя музейныя экспазіцыі:*

— У нашым Музеі матэрыяльнай культуры «Бацькаўшчына» ў 12 залах знаходзіцца больш за 2 тысячы экспанатаў. На экспазіцыях паказваем як у мінулым былі абсталяваны вялікі пакой, кухня ці прыбудоўка, якімі прыладамі працы і вырабамі карысталіся нашыя продкі. У музеі мы паказваем таксама як былі абсталяваны ў мінулым варштаты рамеснікаў і якія вырабы яны выконвалі. Знаёмім наведвальнікаў з тэхнікай з бліжэйшага нам мінулага, якой цяпер ужо не карыстаемся. У нас ёсць калекцыі ручнікоў, макатак, захоўваем многа паштовых марак. Знаходзяцца ў нас прыклады вопраткі з прошлага. Дарагая нам таксама музейная бібліятэка з вялікай колькасцю кніжак. У нашую бібліятэку два разы перадаў кніжкі дырэктар беластоцкай Ксёнжніцы Ян Леанчук, адзін раз — 6 шаф, а другі раз — 5 шаф з кніжкамі. Неяк з Божай дапамогай удаецца нам збіраць і захоўваць экспанаты.

**— Вы вядомыя (*пытанне ізноў да айца Рыгора*) як аўтар або сааўтар разам з матушкай Антанінай і Дарафеем Фіёнкам звыш трыццаці кніжак. У канцы мінулага года Вы выдалі кнігу «Іерархі і духавенства Праваслаўнай царквы ў межах II Рэчы Паспалітай і пасляваеннай Польшчы у XIX-XXI стагоддзях», матэрыялы да якой трэба было збіраць вельмі доўга.**

— Лёс праваслаўнага духавенства на нашых тэрыторыях быў розны. Старалася яно служыць Богу, праваслаўю, мясцовым людзям і сваёй дзяржаве, у якой жыло і гэта я хацеў паказаць у кнізе-каталогу «Іерархі і духавенства...», якая з'яўляецца добрым матэрыялам для састаўлення генеалогіі паасобных родаў, а таксама абшырным матэрыялам для навуковых даследаванняў.

**— Вы з'яўляецеся пастаянным чытачом нашага тыднёвіка «Ніва», а раней былі актыўным нашым карэспандэнтам.**

— Я пастаянна чытаю «Ніву» і захоўваю ў сябе ўсе нумары тыднёвіка. Калі былі наладжаны конкурсы на лепшых карэспандэнтаў «Нівы», я нават у гэтым рэйтынгу заняў 5 месца. Раней, па вядомых прычынах, «Ніва» не магла друкаваць артыкулаў на тэму царкоўнага жыцця, але ў васьмідзесятых гадах паявілася магчымасць прапіхнуць такія тэмы з дапамогай Міколы Гайдука і са згоды галоўнага рэдактара Георгія Валкавыцкага. Будучы яшчэ на прыходзе ў Сямятычах, я пачаў дасылаць свае артыкулы ў «Ніву», якія друкаваліся пад агульным загалоўкам «Помнікі культуры», дзе я даваў кароткія вопісы гісторыі нашых цэркваў — помнікаў культуры, ілюстраваныя здымкамі храмаў. У «Бібліяграфічным куточку» апісваў я кніжкі аб Беларусі, таксама з дарэвалюцыйнага мінулага.

**— Дзякую за размову і жадаю моцнага здароўя, каб маглі Вы надалей аддана служыць Богу і людзям.**

**Гутарыў Аляксей МАРОЗ**

# Крутыя дарогі Прытыцкіх з Гаркавічаў

Родная сястра вядомага беларускага дзяржаўнага дзеяча Сяргея Прытыцкага (1913-1971) Іраіда Царук даслала сваю новую кнігу ўспамінаў на рускай мове „Крутые дороги" (Мінск 2012). Кніга прысвечана Сяргею Прытыцкаму.






Сяргей Прытыцкі сярод родных і сяброў у Крынках. Лістапад, 1939 г.

Шчыра прызнаюся, прачытаў я яе з вялікай цікавасцю. Кніга напісана проста, лёгка чытаецца, момантамі ажно захапляе. Шкада толькі, што напісаны ўспаміны па-руску. Такія выданні, лічу, павінны быць на роднай мове, яны яшчэ лепш чыталіся б, яны бліжэй былі б беларускаму чытачу, таму што, апісваючы і ўспамінаючы родную Беласточчыну, родныя Гаркавічы, Саколку, Заходнюю Беларусь — нельга так цёпла і сардэчна выказаць свае думкі на чужой мове, як на роднай.

Пяць гадоў працавала Іраіда Царук над успамінамі. І яны ўдаліся, атрымаліся, хаця месцамі, калі чытаеш, напрошваецца рэдактарская праўка. Ды што гэта я пачаў з заўваг. Яны, вядома ж, ёсць. Але сам змест успамінаў — гэта далёка не сухія факты гісторыі Заходняй Беларусі, гэта цёплыя і сардэчныя ўспаміны і перажыванні, боль, радасць і жыццё сям'і Прытыцкіх з вёскі Гаркавічы Сакольскага павета Падляшскага ваяводства. Аўтарка на прыкладзе сваёй сям'і, гісторыі родных братоў, сясцёр, бацькоў — практычна паказала гісторыю беларускага народа, асабліва беларусаў з Заходняй Беларусі.

Кніга „Крутые дороги" (далей цытаваць буду ўсё ў перакладзе на беларускую мову. — С. Ч.) складаецца з трох раздзелаў: „Пачатак шляху", „Ваенныя дарогі", „Новае жыццё". У першым раздзеле аўтарка разглядзела гістарычны шлях Беларусі, роднай Беласточчыны, Сакольшчыны і Гаркавічаў з Юраўлянамі. Аўтарка піша, што некалі ў Саколцы вялікае значэнне мелі кірмашы, дзе гандлявалі коньмі. А справа ў тым, што добрым попытам карысталіся некалі коні „сакольскай" пароды. Па іх і прыязджалі пакупнікі з розных рэгіёнаў Польшчы.

А вось што кажа аўтарка пра рэкруцкі тэрмін службы. „Рэкрутчына ўспрымалася беларускімі (і не толькі) сялянамі, як пахавіны жыўцом. Чалавек, які стаў рэкрутам, практычна назаўсёды знікаў з сям'і, нават калі ён служыў 25 гадоў".

Цікавы факт Іраіда Царук згадвае пра свайго дзеда Рыгора Прытыцкага: „Мой дзед Рыгор быў сярэдняга росту, моцнага целаскладу мужчына. Вызначаўся зайздросным здароўем. Памёр, працуючы ў полі, на 105-м годзе жыцця, напярэдадні Першай сусветнай вайны".

Шмат і даволі праўдзіва аўтарка кнігі апісвае горкі хлеб бежанцаў-беларусаў. У Гаркавічы тады прыскакалі на конях сотні рускіх казакоў і пачалі крычаць: „Збірайцеся,



Аўтарка кніжкі Іраіда ЦАРУК

ідзіце з вёскі, бо яе мы будзем хутка паліць. Нічога не пакідайце немцам". Людзі Гаркавічаў разгубіліся, бо не ведалі, што рабіць, куды ісці і ехаць. Прытыцкія, напрыклад, пасадзілі ўсіх на воз і паехалі ў Крынкі, Малую Бераставіцу і далей на ўсход. З тэрыторыі Заходняй Беларусі, па інфармацыі Іраіды Царук, выехалі прыкладна 2,5 мільёна чалавек, а вярнуліся на Бацькаўшчыну ўсяго толькі каля 600 тысяч. Бежанцы з Гродзеншчыны і Беласточчыны апынуліся ў Сібіры, Забайкаллі, сярэдняй частцы Расіі, у Краснаярску, Хакасіі, Томску, Пензе, Тамбове.

Сям'я Прытыцкіх з Гаркавічаў трапіла ажно ў Пензенскую губерню. Ім большменш пашанцавала ў бежанстве, але бацька Іраіды вельмі сумаваў па Беласточчыне. Аўтар кнігі ўспамінае: „Бацька сумаваў па родных мясцінах, хаця і імкнуўся схаваць гэта, асабліва ад жонкі. А мама — чулая, уважлівая, усё заўважала і часам пыталася: „Не можаш забыць Гаркавічы? Сумуеш? А што там мы бачылі добрага?".

Але Восіп Рыгоравіч, каб не хваляваць жонку, маўчаў. Хаця перад вачыма яго заўсёды стаялі родныя беларускія мясціны, старая вярба каля ганка і маладая рабіна каля веснічак, вішнёвы сад у канцы агарода, квітнеючыя яблыні і грушы ў вялікім садзе... „Тут прыгожа, — часам казаў у бежанстве бацька, — але нашых сцяжынак тут няма", — чулліва прыгадвае Іраіда Царук.

Пачалі вяртацца на Бацькаўшчыну. Прыехалі ў Мінск. Але ён сустрэў далёка не шчыра. Як быццам гэта вярнуліся не беларусы, а чужакі. У Прытыцкіх скончыліся харчовыя запасы, ды і грошай не было. Беларусы Беласточчыны казалі: „Ехалі да Мінска — кідалі лупінска, а ехалі з Мінска — збіралі лупінска".

Згодна перапісу насельніцтва 1921 года, на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства пражывалі 3 372 134 чалавекі, што складала 12,5 % насельніцтва Польшчы. 70,5% былі беларусы, 11,4% — яўрэі, 10% — палякі.

Іраіда Царук у сваёй кнізе згадала і знакамітых людзей Беласточчыны: кампазітара і дырыжора Кастуся Кіслага, братоў Грынкевічаў, фізіка Аляксандра Гершуна, архітэктара Іосіфа Лангбарда, тэатральнага крытыка Арсеня Лабовіча, палітыка Янку Чарапука і іншых. Ёсць згадка і пра тэатральны кааператыў „Полымя", які дзейнічаў на Беласточчыне ў 1930-х гадах. Дэкарацыі да спектакляў кааператыва „Полымя" тады маляваў беларускі мастак Язэп Драздовіч, але аўтарка кнігі чамусьці называе яго Іванам Драздовічам.

Прыгадвае Іраіда Царук і рэвалюцыйны шлях Сяргея Прытыцкага, а таксама Паўла Валошына. „Ад вёскі да вёскі, ад хутара да хутара ішоў Сяргей Прытыцкі, ствараючы ў былой Заходняй Беларусі падпольныя ячэйкі партыі і камсамола, уцягваючы ў рэвалюцыйную барацьбу дзесяткі, сотні новых змагароў" — піша натхнёна аўтарка кнігі. Былы падпольшчык А. Я. Якубоўскі, які працаваў у той час на Браслаўшчыне, у Крынках, Слоніме і іншых месцах, у пісьме да аўтаркі кнігі ў 1971 годзе пісаў, што ў Крынках ён упершыню сустрэўся з камсамольцам „Аркадзем". Пазней ён даведаўся, што Аркадзь — гэта С. В. Прытыцкі". Па ініцыятыве Аркадзя ў той час адбываліся забастоўкі ў Крынках, не быў ён убаку ад забастовак і ў іншых рэгіёнах Беласточчыны.

Шмат старонак у кнізе адведзена таму моманту, калі ў судзе Сяргей Прытыцкі страляў у Якава Стральчука. Але забіць Стральчука яму не ўдалося, бо ён быў апрануты ў бронежылет. Чуллівы ўспамін Іраіды Царук, калі маці сустракаецца ў турме з Сяргеем Прытыцкім: „Прывялі Сярожу. Апіраючыся на кіёк, ён ледзьве ступаў на нагу. Бледны, худы. Але маму сустрэў такой радаснай, здавалася, бесклапотнаю ўсмешкай. Толькі мацярына сэрца не падманеш. Прытуліўшыся да яго грудзей, мама ціха-ціха сказала: „Сынок, на добрага чалавека ты руку не падняў". — „Ніколі, мамачка, — апусціўшыся перад ёй на калені, ціха адказаў Сярожа, — чэсным і добрым людзям я заўсёды дапамагу чым змагу".

— Сярожанька, а я чым магу дапамагчы табе? Ты такі бледны, можа табе маёй крыві хоць кропельку ўліць?

Пасля гэтага, расказваў Сярожа, ён нічога не мог сказаць. Слёзы пырснулі з яго вачэй. Упершыню і апошні раз гэты, здавалася, жалезны чалавек плакаў. Час спаткання праляцеў імгненна. Наглядчык хутка разлучыў маці з сынам. Праз некалькі тыдняў — 12 лістапада 1937 года — мама памерла...".

Пра смерць сваёй мамы Сяргей Прытыцкі даведаўся ад сястры Любы, калі тая наведала яго за кратамі ў Гродне. Люба сказала: „Сярожка, апошні, гарачы паклон табе ад мамы". Сяргей стаў бледным, схапіўся рукамі за краты і сказаў: „Мама памерла...". Болей размаўляць яны не змаглі...

У 1937 годзе Сяргей Прытыцкі выйшаў на волю. Але потым пачалася Другая сусветная вайна, пасляваенная адбудова Бацькаўшчыны. Пра лёс Сяргея Прытыцкага ў гэты час аўтарка распавядае ў наступных раздзелах кнігі. З яе ўспамінаў чытачы даведаюцца, што ў Сяргея Прытыцкага было вельмі шмат сяброў. Сярод іх — і беларускія літаратары. Ён шмат гадоў сябраваў з Міхасём Лыньковым, Петрусём Броўкам, Кандратам Крапівой, Піменам Панчанкам, Пілiпам Пестраком, Максімам Танкам. Вельмі шмат вершаў Максіма Танка ведаў на памяць.

Летам 2007 года аўтарка кнігі Іраіда Царук са сваімі сваякамі наведала Польшчу. Яна пабывала ў родных Гаркавічах. А вось Юраўлянаў ужо няма. Там пагранічная застава. Са 120 дамоў у Гаркавічах засталіся толькі 30. Музей Сяргея Прытыцкага даўно не існуе. Аўтарка з горыччу піша: „Ужо няма нічога, з чаго складвалася тое жыццё, калыскай якой былі Гаркавічы".

Так, аўтарку ўспамінаў можна зразумець. Яна шчыра распавядала пра свой час, пра сваё XX стагоддзе. Гэта былі яе гады: шчаслівыя, сумныя, горкія, радасныя. Яе равеснікі жылі, думалі, вучыліся, працавалі ў цесным кантакце з жыццём, гісторыяй, усімі падзеямі нашай Беларусі. А адраваць Прытыцкіх, як і ўсіх беларусаў, ад нашай Радзімы немагчыма. Якім бурным, трагічным, ствараючым і разбуральным не было тое XX стагоддзе.

Сяргей ЧЫГРЫН

# Навочны сведка гісторыі

23 жніўня 1939 года быў падпісаны пакт Рыбентроп-Молатаў паміж гітлераўскай Германіяй і Савецкім Саюзам. Абодва міністры замежных спраў ад імя сваіх правадыроў Адольфа Гітлера і Іосіфа Сталіна ўчынілі падзел тэрыторый дзяржаў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы — Польшчы, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі і Румыніі. Але аб гэтым насельніцтва Польшчы, як і Прыбалтыкі, не ведала. Аб гэтым сведчыць ніжэйзапісаны аповед.


Фота Уладзіміра СІДАРУКА

Надзея Сахарчук

Надзея Сахарчук у верасні закончыць 90 год. Жыве ў Маліннiках Арлянскай гміны. Ведае шмат даўнейшых песень. Гэта сапраўдная скарбніца фальклору. Многае ў жыцці бабулька пражыла і бачыла. Асаблівую частку ў біяграфіі цёткі Надзі займае міжваенны перыяд і нямецкая акупацыя. Вось як зараз успамінае яна мінулае...

— Дарогаю з Бельска ў напрамку Кляшчэляў ішло шмат нямецкага войска. Было гэта пасля Сплення, у пачатку верасня 1939 года. Бацькі жылі ў Пашкоўшчыне. І я разам з імі. Шаснаццаты год мне пайшоў. З віду стройным дзяўчом я лічылася...

Вестка аб надыходзе немцаў імгненна абабегла ўсё сяло. Хто жывы ішоў паглядзець чужаземных салдат. Пайшла і я з сяброўкамі. Першымі праехалі салдаты на роварах, за імі — матацыклісты. Калону закрывалі танкі і грузавыя аўтамабілі, запоўненыя салдатамі. Немцы з зацікаўленнем глядзелі на згуртаваных побач дарогі людзей. Твары іхнія яснелі вясёлай усмешкай. Неспадзявана каля нас спыніўся аўтамабіль. З машыны выйшаў афіцэр. Штосьці гаварыў, але мы не разумелі. Калі пачаў жэстыкуляваць і паказваць рукою ў мой бок, стаяўшы побач Кірыла Муха (пакрысе разбіраўся ў нямецкай гаворцы) падышоў да мяне і кажа: „Ідзі, ён цябе кліча".

Азіраючыся на застаўшыхся ззаду аднасяльчан, падалася я ўперад. Афіцэр узяў з аўтамабіля банку рыбнай кансервы і пацеркі, ды перадаў іх мне, усміхаючыся. Штосьці яшчэ „гергетаў", але я не зразумела. Кіўком галавы падзякавала я ахвяравальніку за падарунак. Калона скрылася за паваротам. Куды падаваліся, цяжка сказаць...

Восенню гэтага ж года, — працягвае субяседніца, — капала я з бацькамі бульбу ва ўрочышчы „Вішнёўка" (назва засталася ад прозвішча даўнейшага пана Вішнеўскага). Участак поля знаходзіўся на адлегласці каля двухсот метраў і прылягаў паралельна да дарогі ў Малінніві. Не ўгледзелі мы пад'язджаючага аўтамабіля. Калі пачуўся выстрал, паглядзелі ў гэты бок. Здалёк прыкмеціла я белы аўтамабіль на дарозе, а побач яго стаяўшага немца з пісталетам у руцэ. Бачыла яшчэ двух немцаў, выходзячых з аўтамабіля з пісталетамі. Пасля чуліся выстралы. Закончыўшы капанне на гэтым полі, падаліся мы на другі ўчастак. Праходзячы, здалёк угледзелі на пашы пад альшынай пабітых гусей. Здавалася нам, што немцы іх пастралялі. Гэта было зранку, да ўсходу сонца. Калі наблізіліся з капаннем бліжэй дарогі, угледзелі ідучую з Пашкоўшчыны жанчыну. Кабета падышла да нас і кажа: „Дзяўчаты, капаеце бульбу і нічога не бачыце.Там жа на дарозе ляжыць забіты мужчына". Падаліся мы за жанчынай. На абочыне ў рове ляжаў застрэлены чалавек. Апрануты быў у бронзавыя нагавіцы і цёмна-сіні пінжак. У пярэдняй частцы галавы віднела дзірка ад кулі. Другая знаходзілася збоку, над вухам. Збоку прылягала кукса далоні з адстрэленымі трыма пальцамі.

— Гэта ж малінніцкі настаўнік. Ведаю яго, — гавару жанчыне. — Пазнала...

Дарогаю праязджаў Васіль Кулік. Спыніўшы яго, кажу:

— Скажыце Мікалаю Драздоўскаму, каб прыехаў і забраў настаўніка. Немцы застрэлілі...

Малінніцкая школа змяшчалася ў Драздоўскіх. Там кватараваўся настаўнік Аляксандр Шыбіст з сям'ёю. Жонка настаўнічала ў Пашкоўшчыне, а ён — у Маліннiках. Мелі трохгадовую дачушку і шасцімесячнага хлопчыка. Жончына сястра настаўнічала ў Пiліках.

Неўзабаве заехаў з падводай Мікалай Драздоўскі з суседзямі Васілём Тафілюком і Аляксандрам Буйнюком. Пагрузілі на фуру памерлага і павезлі ў Маліннікі. Пазней дачка Драздоўскага (мая сяброўка, Надзя) казала, што настаўніка забралі на досвітку. Ніхто не ведае, чаму забралі і куды павезлі. Як прывезлі дахаты мужыка, жонка ўчыніла лямант. Пасля дала адзенне, у якое апранулі нябожчыка. У тым жа яго пахавалі ў куточку на могільніку ў Маліннiках. Жонка пасля пахавання перасялілася да сястры ў Пілікі. Там настаўнічала. З Драздоўскімі, якія наглядалі за магілай, трымалі харошыя кантакты. У мінулым годзе сын Тадзік, атрымаўшы дазвол на эксгумацыю, перавёз астанкі бацькі з малінніцкага могільніка да месца пражывання.

Але гэта не канец ваеннаму аповеду старэчы.

— Запамяталася мне яшчэ такое здарэнне, — працягвае Надзея Сахарчук. — Неўзабаве пасля адыходу немцаў на ўсход побач Пашкоўшчыны, а было гэта ў час капання бульбы, угледзелі мы над выганам прызямляючыся самалёт. Спусціўся ён насупраць нашай пашы. Неўзабаве пабачылі ідучых у наш бок немцаў. Калі наблізіліся, адзін з іх падышоў да мяне і загаварыў папольску:

— Ці можаш зрабіць з намі здымак?..

Не ведала я што сказаць. Затым падалася да бацькі і кажу:

— Татку, ці пазволіце пайсці дахаты пераапрануцца?

А калі атрымала згоду, падалася дамоў у Пашкоўшчыну. Разам са мною пайшлі прышэльцы. Пераапрануўшыся, вярнуліся мы на поле, дзе побач самалёта рабілі здымкі. Памятаю, што было гэта ў суботу. У нядзелю сабралася побач самалёта шмат цікаўных жыхароў Пашкоўшчыны і Маліннік. Кожны з блізка хацеў паглядзець незвычайны экземпляр самалёта. Пасля лётчык тлумачыў, што вымушаны быў садзіцца па прычыне аварыі рухавіка. Пацярпеў над Брэстам у час абстрэлу зенітнай артылерыі. Ледзь сюды даляцеў. Каб безаварыйна зрабіць пасадку, вымушаны быў спусціць уніз тоўстую ліну закончаную крукам. Гэтая, чапляўшыся зямлі, тармазіла ход машыны. У панядзелак заехалі ў Пашкоўшчыну нямецкія грузавікі. Пагрузілі на аўтамабіль матор і крылы самалёта. Тулава пакінулі на полі. Сяляне разабралі пасля корпус на металалом, з якога рабілі прылады для гаспадаркі.

— Такімі запамяталіся мне падзеі, якіх была я навочным сведкам у першыя дні нямецкай акупацыі, — завяршыла ваенны аповед Надзея Сахарчук з Маліннік.

**Запісаў Уладзімір СІДАРУК**

# Запрашэнне

Самаўрадавая вясковая святліца ў Старым Ляўкове (Нараўчанская гміна) запрашае ў кожны панядзелак і пятніцу а 15-й гадзіне на заняткі па разьбе ў гліне і на ганчарным кругу. Удзел у іх могуць прыняць усе ахвотныя і не толькі мясцовыя. Гліны хопіць для ўсіх, у Ляўкове яе ўдоваль.

Заняткі вядзе Вольга Максімюк — інструктар па скульптуры з Новага Ляўкова, раней шматгадовая працаўніца стараляўкоўскай керамічнай фабрыкі. Мае яна вялікі вопыт у галіне разьбы ў гліне і ўвогуле ў галіне ганчарства. Яна таксама малюе прыгожыя карціны. Яны вылучаюцца адметнасцю. Пад яе кіраўніцтвам варта вучыцца будучым мастакам.

**(яц)**

# У Гайнаўцы

Ужо шмат гадоў у Гайнаўцы аўтобусы Прадпрыемства гарадской камунікацыі (ПГК) курсіруюць па двух маршрутах. Ездзяць яны, аднак, рэдка. Ад панядзелка да пятніцы ўключна дык на лініі № 2 яшчэ не найгорш — больш-менш кожную гадзіну, хаця здараецца таксама двухгадзінны перапынак у руху.

Вельмі рэдка ездзяць аўтобусы ПГК па суботах і нядзелях: кожную гадзіну-дзве, але толькі да 14-й гадзіны! І гэта ўсё. Больш няма. Даражэнькія нядошлыя пасажыры, хадзіце сабе пяшочкам з аднаго ў далёкі другі канец горада. Не забудзьцеся і вазьміце з сабою кіёчкі ў дзве рукі, зараз мода такая прыйшла з Захаду. Або як сабе хочаце. У ПГК пра старэйшых людзей ніхто не падумаў. Ці ж ім ужо сядзець дома?

Мінула ўжо пяць гадоў з таго часу, калі ў Гайнаўцы па вуліцы 3 Мая на аўтобусных прыпынках пабудавалі прыгожыя дашкі-паветкі з плексігласу. Але, па ўсім відаць, пра іх ніхто не клапоціцца. Зараз яны брудныя, запэцканыя і запыленыя. ПГК павінна прыстрэшкі неадкладна памыць, а лавачкі нанова памаляваць.

# Кветкі ў Міхалове і ў Нараўцы

Зараз лета ў разгары, а летам цудоўна цвітуць кветкі. Аб упрыгожанне Міхалова і Нараўкі паклапаціліся Марк Назарка — бурмістр Міхалова і Мікалай Павільч — войт Нараўчанскай гміны.

У Міхалове зараз багата кветак у цэнтры горада — паабапал вуліцы Беластоцкай і ў парку. Вазоны стаяць побач тратуараў і вісяць на слупах вулічнага электраасвятлення. Ёсць тут таксама этажныя (г.зв. шматъярусныя) вазоны з прыгожых кветак. Найбольш іх перад ратушай. Міхалова гэта ж горад.

У Нараўцы ў ліпені закрасавалі кветкі ў салідных бетонных кветніцах. Стаяць яны перад Гмінным асяродкам культуры (тут іх чатыры) і святліцай, перад галерэяй, на прыпынку аўтобусаў ПКС і прыватных (тут таксама чатыры кветніцы), ды яшчэ перад некаторымі гміннымі ўстановамі.

Кветкі ўсе мы любім. Яны цешаць зрок сваёй прыгажосцю і папраўляюць нам настрой сваім пахам. З імі лепш сябе адчуваем і жыццё становіцца больш прыемным.

# Цёплая вада дзякуючы калектарам

У Нараўчанскай гміне цёплая вада будзе дзякуючы сонечным калектарам. Будзе яна ў 112 прыватных жылых будынках, у Асяродку экалагічнай адукацыі ў Семяноўцы, у дэпо ў Старым Ляўкове, у байдарачнай базе ў Нараўцы ды ў санітарных будынках у Старым Двары над Семяноўскім вадасховішчам... зерам.

Гэтага роду ўстаноўкі спрычыняцца да ашчаднасці электраэнергіі, дроў або алею для абагравання памяшканняў у будынках. Будуць куды меншыя выдаткі звязаныя з абаграваннем вады. Апрача таго паветра будзе чысцейшым. А гэта ўсё так важнае.

Гміну сонечныя калектары будуць каштаваць 2,8 млн. зл., з якіх датацыя са сродкаў Рэгіянальнай аперацыйнай праграмы складзе 2,1 млн. зл.

**(яц)**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Летнік „Я нарадзіўся тут” у Кляшчэлях

Усе з нецярпеннем чакаюць чэрвеня. Гэты месяц з'яўляецца не толькі адным з самых гарачых, але разам з ім прыходзяць доўгачаканыя канікулы. Напэўна кожны са школьнікаў цягам цэлага года плануе як выкарыстаць свабодны час, каб не толькі адпачыць, але ў прыемны спосаб чаму-небудзь навучыцца. Дзеці, якія вывучаюць беларускую мову ў беластоцкай „чацвёрцы” ведаюць, што з самага пачатку канікулаў чакае іх тыднёвы этнаграфічны летнік „Я нарадзіўся тут”. Летнік адбываецца штогод, аднак дзецям цяжка прадбачыць, якія ўмеласці будуць яны развіваць і што іх чакае.

Сёлета маладыя беларусы выбраліся ў Кляшчэлі. Дзве вялікія залы ў будынку школы былі выкарыстаны ў якасці спальні. Варта сказаць, што гэтыя незвычайныя ўмовы дзеці палічылі козырам. Невыпадкова цесна, адзін пры адным, былі размешчаны на падлозе спальныя мяшкі. Менавіта дзякуючы таму да позніх гадзін можна было размаўляць з сябрам ці сяброўкай, пазбягаючы папрокаў настаўніцы.

Самыя малодшыя ўдзельнікі летніка вучыліся пляценню паясоў на дошчачках. У выніку кожны зрабіў каляровую крэатыўную торбу. Як адзначыла вядучая заняткі Валянціна Лойка, яе майстар-класы карыстаюцца вялікай папулярнасцю. Група дзяцей з Беластока была наймалодшай, з якой прыйшлося ёй працаваць. „Я думала, што гэтыя заняткі больш адпаведныя для студэнтаў, падлеткаў, а тут такія малыя дзеці плятуць паясы. Я не спадзявалася, што яны змогуць навучыцца пляценню і так сумленна працаваць”.

У час летніка ў Кляшчэлях гучалі белы спеў і афрыканскія рытмы. Дзеткі развучвалі народныя беларускія песні, вучыліся іграць на бубнах мелодыі з далёкай Афрыкі. Разнавідныя заняткі не пакідалі часу, каб наракаць на нуду. А доказам на тое, што дзеці любяць у такі спосаб праводзіць час, хай будуць словы самай маленькай удзельніцы летніка: „Паводле мяне, кожны павінен прыехаць на такі летнік!”.


Фото Улі ШУБЗДЫ


Фото Улі ШУБЗДЫ

Уршуля ШУБЗДА

## Мы як першыя адкрылі „Кнігу стыляў 2013”!

*Рэдакцыя газеты „Галерэя Тамары” сустрэлася з Дыянай Нахіла, спецыялістам па арт-дызайне, рэдактарам газеты „Biznes.meble.pl”. Спадарыня Дыяна паказала нам розныя ўзоры і патлумачыла іх сімвалічнае значэнне. Мы гутарылі пра свет у „Нараўчанскай баладзе” і пра цывілізацыйныя змены, якія збыліся ў наш час. Мы пабачылі многа здымкаў людзей, звяроў, кветак. Усе маглі праявіць актыўнасць, паколькі ў наш бок спадарыня Дыяна паставіла многа пытанняў, звязаных з эстэтыкай і беларускім культурным кодам дапісьмовай пары. На канец мы сталі ўдзельнікамі агульнапольскай падзеі. Мы як першыя адкрылі „Кнігу стыляў на 2013 год” („Księga Trendów 2013”), якую, між іншым, прыдумала і папоўніла зместам спадарыня Дыяна Нахіла. На заканчэнне мы паслухалі падляшскіх песень летняга перыяду з кампакт-дыска „Журылася Катэрына”.*

*„Галерэя Тамары”*



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Вершы Віктара Шведа

### З размоў камароў

Старэйшы камар
Малодшага пытае:
— Як тваіх лётаў дар
Навакол успрымаюць?

— Мой кожны новы лёт
Успрымаюць з сентыментам.
Праз лёт і паварот
Звіняць апладысменты.

### Пачастункі

— Скардзяцца твае сябры,
Што не частуеш іх ніколі.
— У іх дэвіз: бяры, бяры,
Рукам заўсёды даюць волю.

Бацькі адмовяць увачу,
Калі частую асцярожна.
Бабулю частаваць хачу,
Ды сам не ведаю: ці возьме?

№ 28 [14-07-2013]



# Цалаваліся,стоячы ў халоднай вадзе...(ч. 3)

Інтэрв'ю з **Альжбетай Раеўскай-Нікановіч**, галоўнай гераіняй фільма „Нараўчанская балада”, сёння дырэктаркай Рэгіянальнага асяродка сацыяльнай палітыкі Падляшскай маршалкоўскай управы.



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

***ГТ: — Ці, паводле Вас, Тамара Саланевіч была прыгожай жанчынай?***

**АР-Н:** — Вельмі прыгожай. Яна мела ў сабе такі магніт, які прыцягваў людзей. Дзе яна паяўлася, там проста не было абмежаванняў, бар'ера. Яна была „свая”.

***ГТ: — Ці яна дапамагала Вам іграць ролі, а калі так, то ў які спосаб?***

**АР-Н:** — Яна пасняла як павінна выглядаць сцэна. Яна звяртала ўвагу на ігру тварам. Не ўсё можна перадаць мовай, паўныя падказкі былі перададзены мімікай, жэстам. Часам гэта доўжылася, але ў яе ўсё мусіла выглядаць добра.

***ГТ: — Ці Тамара Саланевіч мела ўплыў на Вашы погляды?***

**АН-Р:** — Так. Я раней не ведала як цяжка жыць людзям у вёсцы. Мне здавалася, што гэта немагчыма, каб людзі жылі ў такіх цяжкіх умовах. Гэта паўплывала на тое, што цяпер бачу свет не толькі як прыгожы, але і сапраўдны з яго праблемамі і нястачамі. З гэтым звязаны таксама мой прафесійны свет.

***ГТ: — Ці Тамара Саланевіч была ўзорам для ліцэістаў ці можа дзівачкай?***

**АР-Н:** . Безумоўна, яна была ўзорам. Тамара Саланевіч мела свой стыль, яна нікога не паўтарала, яна была сабой. Нам не трэба прыкідвацца кімсьці іншым. У жыцці трэба быць сабой, тады ўсё будзе працей.

***ГТ: — Ці Вы самі часта вяртаецеся ўспамінамі да часоў, калі здымалі фільм?***

**АР-Н**: Цяпер усё часцей вяртаюся. Можа таму, што раней я не мела фільма і не магла яго глядзець у любы момант. Сам фільм тады не меў для мяне такой вялікай вартасці як сёння. Сёння інакш гляджу на жыццё і на гэты фільм.

***ГТ: — Дзякуем за размову.***

АР-Н: — Я таксма вельмі вам дзякую за зацікаўленне Тамарай Саланевіч.

PS. Мы доўга думалі як перакласці на беларускую мову загаловак фільма „Kresowa ballada”. Дакладны пераклад не аддаваў беларускага пункту гледжання, таму што для беларусаў „польскія крэсы” — гэта Заходняя Беларусь. Нашы героі часта гаварылі пра гэты фільм як „Нарвянскі трыпціх”. Менавіта гэтая падказка вырашыла, што ў нашым перакладзе фільм будзе называцца „Нараўчанская балада”. Тут паклон у бок рэчкі Нараўкі, якая плыве праз Белавежскую пушчу і Нараўчанскую гміну.

*„Галерэя Тамары” — аўтары: Наталля Васько (Гімназія ў Нараўцы), Эва Аварчук (Гімназія ў КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім), Міхась Бабік (ПШ № 4 у Беластоку), Дамініка Благушэўская і Зузанна Кардзюкевіч (НШ імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку), Юліта Грыка (Гімназія ў Міхалове), Адам Сцепанюк (КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім). Апрацоўка і праўкі: Валянціна Бабулевіч, Іаанна Марко, Уршуля Шубзда. Рэдакцыя тэксту: Ганна Кандрацюк.*

# Ушанаваць памяць паэта

На Ляўкоўскіх могілках спачывае беларускі паэт-„белавежац” Уладзімір Гайдук. Каб ушанаваць памяць паэта, удзельнікі 27 Сустрэч „Зоркі” рашылі наведаць яго магілу. Мы пакланіліся месцу і прыгадалі асобу паэта-селяніна, якога вершы можам знайсці ў падручніках па беларускай мове. Зімой 1997 года ў доме ў паэта ў Тарнопалі гасцілі дзеці з ІІІ Сустрэч „Зоркі”. Пра гэта яны напісалі рэпартаж. А зараз Наталля Васько, Міхась Бабік, Куба Ваўранюк, Крыстыян Паскробка, Оля Зінкевіч і Дамініка Багушэўская прачыталі над магілкай яго вершы пра лета, прыроду, сенаванне і пачуцці. Гэта быў наш паклон паэту. Нас уразіла, што магіла занядбаная. Гэты недахоп выправілі нашыя апякункі, якія прыйшлі сюды наступнай раніцы і прыбралі месца спачыну Уладзіміра Гайдука і яго бацькоў.

Фота Ганны КАНДРАЦЮК



Мы не павінны забываць пра месцы спачыну вядомых беларусаў.

*„Людзі Тамары Саланевіч” — Патрыцыя Карлаў з Гімназіі імя Роду Хадкевічаў у Гарадку і Аляксандра Зінкевіч з КШ з ДНБМ імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім.*

# Чарнавокай

*Летні вечар, царква, збожжа.*
*З чарнавокаю дзяўчынай,*
*Закаханыя, варожым*
*У зорак светлай павуціне.*
*Пацалунак ціхі, золак.*
*Развітанне з чарнавокай*
*Затаю, як перлу ў моры,*
*У душы на дне глыбока.*
*І не раз у пыле горкім,*
*У час вандровак і ў час маршаў*
*Аб дзяўчыне чарнавокай*
*Успомню словам найласкаўшым.*

***Уладзімір Гайдук,***
***„Полымя роднае”,***
*Бібліятэка літаб'яднання „Белавежа”.*

# Польска-беларуская крыжаванка аб прыродзе

# № 29

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 25:**

Тост, паклон, жаба, род, падарожжа, рака, дар, лета. Жара, спадар, табак, кара, морж, нож, дата.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Патрыцыя Бядрыцкая**, **Аня Панькоўская** з Нараўкі, **Оля Пугацэвіч, Наталля Савіцкая** з ПШ № 4 у Беластоку. Віншуем!



# Нестары беларускі хор

**— Сустрэліся мы ў Свята-Духаўскім саборы, — успамінае Уладзімір Клімюк. — Кажу жонцы: „Глядзі, Верка Леўчук”. А мая Раіса: „Праўда, здаецца, яна! Але не падыходзь да яе, у царкве не выпадае!” — А я адважыўся: „Ну, калі гэта не яна дык скажа не, і ўсё. Вера, гэта ты?”**

— Гэта, што ты мяне пазнаў у царкве, гэта проста цуд! Гэта ж 57 гадоў прайшло! А я падышла, абняла яго, і спахапілася: „Ой, мы ж у царкве! Ды і з самага пераду”, — Вера Леўчук-Валкавыцкая расказвае пра сустрэчу са сваім калегам ужо ў рэдакцыі „Нівы”, куды прыцягнула і пару артыстаў з аматарскага мастацкага беларускага калектыву, выступаючых на сцэне ў канцы пяцідзесятых гадоў мінулага стагоддзя. І ўсе дарогі вялі ў „Ніву”. І цяпер мне вядомыя гэтыя асобы — спадар Уладзімір — верны чытач „Нівы” (пераможца шматлікіх гістарычных конкурсаў), не прапускае ні аднаго беларускага мерапрыемства. Танцорка Валянціна Жэшка ў „Ніве” працавала карэктаркай аж да пенсіі, Вера Леўчук-Валкавыцкая была тут журналісткай, а Ніна Бручко, пасля Анджэюк, працавала ў сакратарыяце, крыху пісала, канчала студыі, а сур'ёзна дэбютавала на яе старонках... трыццаць гадоў пасля адыходу з рэдакцыі. Кожнае з іх прынесла пакеты здымкаў з выступленняў беларускага мастацкага калектыву песні і танца, які выступаў не толькі на Беласточчыне... Ліюцца ўспаміны з часу, калі ім было па 16-17 гадоў. Пераклікаюцца. Як яны тады выглядалі! І дзе яны збіраліся.

— У тадышнім беларускім цэнтры па вуліцы Маніфесту Ліпцовага (цяпер святога Роха). Гэта было ў месцы кіно „Сірэна”, але ў другім будынку, — удакладняе Валя Жэшка.

А тут і ўспаміны Сакрата Яновіча:

— У галіне мастацкай самадзейнасці — Галена Зюлкоўская ненатуральнай грацыі накшталт лялькі Барбі, але па-мужчынску энергічная дырыжор хору; дагэтуль кіравала ім Людміла Панько, унікальная інтэлігентка з віленскай гімназійнасцю, з мяккай культурнасцю. Балетнай групай камандавала Тацццяна Гіжэўская з бельскіх мяшчан, тых шпануючых у гутарцы на правільное петербургское произношение. Спадарыня Гіжэўская ў паўзы пакурвала папяросы, мела манеры российской мадам, што панічна бянтэжыла паросьлых звычаёвым мохам бандарска-зубаўскіх донжуанаў. Проста гіпнатычна паралізавала яна іх, выраслых у народнай петушиности. У немалым дзявочым натоўпе хору і балету, у палавой прыцягальнасці моладзі... Рэдакцыю „Нівы” за гэты час перанеслі з Кілінскага на Маніфесту Ліпцовага, у правае крыло кіно „Сірэна”. На высокім паверсе там, з авальнай залай з трасокучым паркетам знаходзіліся тры пакоі па лініі антрэсолі як быццам, два з якіх займала Таварыства; у трэцім, за калідорчыкам, гнездаваў Валкавыцкі з Баравіком; журналісты і машыністкі — Люба Сліжэўская, Ніна Бручко — гугнявілі, як гусі на выгане, на той аграмадзіне з туалетам у глыбокім закутку (сталы стаялі паўкругам). Вечарамі адбываў тут рэпетыцыі тлумны хор, пасля чаго пару паненак спрабавала хутка выйсці замуж папоцемку... Кіраўнічка балетнай групы, спадарыня Тацццяна Гіжэўская, трымала свой табунік у моцнай дысцыпліне, слушна лічачы, што любашчы кепска ўплываюць на фізічную кандыцыю танцорак, танцораў...

— Усе мы такія харошыя, — разглядае здымкі Вера Леўчук. — Мяне, з такой сям'і (баптысцкай) навучыла маляваццa Ніна, з якой я жыла ў яе сястры. І танцаваць я ж не ўмела, не мела таго сцэнічнага руху.

— Затое ты выцягвала дзве актавы, — удакладняе Ніна. — Яшчэ ў беларускім ліцэі хваліў цябе Яраслаў Касцюшэвіч, як спявала „Зорку Венеру”... А тут на здымках усе мы... А хто тут?

— Шміткоўская, яе муж працаваў у міліцыі. А тут Ніна Здуневіч.. — узіраецца Валя ў здымак, а вочы ў яе цяпер слабенькія, і прыйшла яна на дзвюх мыліцах, бо хадзіць не дае рады..



Здымкі хору



Злева: Вера Валкавыцкая, Уладзімір Клімюк, Ніна Бручко, Валянціна Жэшка

— О, Валя, якая ты танцорка была! — распазнае яе, былую танцавальшчыцу з таліяй асы Уладзімір.

— Валя была тады яшчэ Нікіцюк, — кажа Вера. — А тут на здымку яна з Барысам Жэшкам, з усёй кампаніі толькі яны хіба сталі парай.

— Ой, мусім парабіць адбіткі ад здымкаў на памятку! — перакідае здымкі Ніна. — Бо ж не ўсе маем.

— О, тут Ніна Бручко, — паказвае Вера смаліставаласую прыгажуню з тэатральнай сцэны Уладзіміру. Белавалосая цяпер Ніна жартуе: „А я сёння акуляраў забылася”.

— Веру я пазнаў, але вас... Мінула аж столькі гадоў! Ніна тады была чорная, як і я... А Барыс?.. Даўно не жыве, кажуце, вечная яму памяць... А здымкі размножым, бо не ўсе маем. Вось гэты, у снезе, як мы ў Сямятычы едзем на выступленне. А тут здымак з Гродна. На нашым выступленні Пётр Машэраў быў. Тут Кастусь Сідаровіч. Гэта ў 1957 годзе. А тутака мы на дажынках на стадыёне ў Варшаве. А пасля перад Палацам культуры і навукі. Тут — фота з Гарадка. А тут — з арганізацыйнага сходу, у 1956 годзе, у сядзібе Таварыства польска-савецкай дружбы, прыйшло 120 чалавек зацікаўленых беларускім самадзейным рухам. Мы паставілі сцэнку, з калаўроткамі, рукадзеллем...

— Вера ў „Паўлінцы”, а я — у „Пярэстай красулі”, — паказвае здымак Ніна Бручко, дзе яна разам з Ромкам (Васем) Місеюком і Колем Капчуком. А на гэтым ты, Вера, я, і Зося Busловіч. Зося выйшла замуж за былога кандыдата ў ксяндзы...

— А колькі ў цябе дзяцей, Валодзя? Двое? І ў Зосі двое, і ў Ніны двое. У мяне адно, — пералічвае Вера, цяпер бабуля. — Кончылася нам гулянне ў мастацтва, зараз пайшлі мы дзяцей нараджаць. У мяне жывот быў вялікі, дзе тут ездзіць... А што мы найперш спявалі?

— Кастусь Каліноўскі спяваў „Воды арыка бегут как живые, переливаясь, журча и звеня”, — тут Валодзя і заспяваў усю песню. — Спявалі мы таксама песні розных народаў.

— Потым ён спяваў у „Лявонісе” з Любай Томчык, — прыгадвае Вера. — А тут бачу ліст табе з „Нівы” ў адказ на карэспандэнцыю, у якой ты пішаш пра старыя назвы Беластока, з пажаданнямі поспехаў у вучобе. З маім ужо подпісам, бо я апекавалася карэспандэнтамі.

— Я пасля вучыўся ў настаўніцкай студыі, — удакладняе Клімюк, цяпер настаўнік прафесіі ў кравецкай школе. — А я пісаў: „Сапраўды прыходзіцца задумацца нам, жыхарам горада Беластока, як настойліва замазваюцца назвы нашых старых пасёлкаў. Я думаю, што „аседле Пяста” магло б называцца аседлем Баяры або Пячуркі. Старыя назвы лепш падыходзяць да каларыту...” . Я запісваў таксама песні з маіх ваколіц, з Цісоўкі, якія спявалі мая мама Гандзя і бабуля Саламея, з якіх нотны запіс зрабіў Сцяпан Копа. Цяпер спісваю гісторыю роду. Пішу. Мы заўсёды трымаліся пры „Ніве”.

— Важна было тое, — кажа Ніна Бручко, — што ўся наша моладзь прыйшла з беларускіх вёсак у горад. І што — мы ўсе адчувалі сябе горшымі. Бо як прызнацца — „мы з беларусаў”?!. Мы і раней спатыкаліся — малодшыя ў школе, старэйшыя на фабрыках. Веры парабілі Весямі, Ніны — Ясямі, Колі — Меткамі... І тут раптам „Ніва” нас згуртоўвае. Мы ўсе адчулі сябе сваімі. Рэпетыцыі адбываліся па суботах; мы ў суботу працавалі, але пасля збіраліся ў вялікай зале ў кіно „Сірэна”. Адны спявалі, іншыя танцавалі. Валя ў Тацццяны Гіжэўскай, мы ў Міхася Кавальчука. Запамятаўся мне адзін момант: Ідзем усе грамадой з рэпетыцыі і заходзім есці ў бар, на Ліповай, насустрач квяцярні. І раптам усе пачынаюць гаварыць па-беларуску. А ў нас тыя, што абслугоўвалі, пытаюцца: „А вы напэўна з Беларусі?” А мы смяемся: „З Гродна мы”. Былі і маладыя як і мы, і былі старэйшыя, да трыццаці, як Оля Фёдарава (Іванюк, ужо памерла). І гэта дзякуючы „Ніве” набралі мы такой адвагі. Нават я раней перад чужымі прадстаўлялася была „Аліна”. Кавальчук быў першым у нас у тэатральным гуртку, а я была „першай актрысай”. Мелі мяне выслаць у Мінск у тэатральную школу. А ў танцавальнай групе першымі былі Валя і Барыс. А ў хоры запявaламі былі Вера Леўчук-сапрана і Зося Busловіч-альт. Калі Кавальчук выбіраў актрыс да п'есы, спытаўся ў мяне: „А як бы ты рыб лавіла?” Я брала нібы вудачку і паказвала. У „Пярэстай красулі” я іграла галоўную ролю, нарачонай Ромка, а Толік Петышук (таксама ўжо не жыве) прыйшоў купляць пярэстую карову. Такая камедыйка... Згуртаваліся тут усе — былі і інжынеры, і гедзэзісты, і рабочыя з завода „Ухвыты”, і дзяўчаты з фабрык, як Оля Фёдарава, і дзяўчаты з офісаў, як я — машыністка. Гэта быў 1956-1957 год. У 1957 годзе акурат перавялі „Ніву” з вуліцы Кілінскага на цяперашнюю вуліцу Роха. Там была агромная зала, а ў малой быў кабінет галоўнага рэдактара і сакратара. У дзень сядзелі там журналісты, архівіст, машыністкі, сакратарка, а вечар быў для самадзейнікаў. Рабілі там у „Ніве” кожную суботу танцавальныя вечарыны, і нават спраўлялі свой праваслаўны Новы год.

— А я памятаю сход у „Ніве”, — прыгадвае Валя, — калі прыбыў нейкі прадстаўнік улад. Мы рашылі, што будзем гаварыць па-польску, каб ён зразумеў. Пачалі па-польску, але скончылі па-беларуску. Але ён зразумеў...

— Валя танцавала, танцавала, і выйшла замуж за таго танцора, і далей танцавала, — смяецца Вера.

— Ездзілі мы ўсюды, па розных гарадах, — кажа Валя. — Былі ў Варшаве, нават у Кангрэсовай зале. Памятаю, танцавалі тады Бітнерова і Груца — найлепшыя танцоры Польшчы, і мы ў той самай часткі.

— Я памятаю першы наш выступ у Гарадку, выступленні ў Гродне, у Гайнаўцы, у Белавежы... — успамінае Ніна. — У Беластоку, на сцэне Таварыства польска-савецкай дружбы, заступіла мяне ў „Паўлінцы” Вера, бо мая сястра замуж выходзіла, і я на вяселле паехала. Усе мы тады былі паненкамі, а калі пайшлі замуж, дык заняліся домам. Толькі Валя далей танцавала з мужам. А „патанцоўкі” рабілі мы амаль кожную суботу. Я танцавала з Мікалаем Капчуком, інжынерам, вельмі нам лёгка танцавалася вальс... Гляджу на здымкі, успамінаю твары. Была такая Надзя з Сацоў, маладзенькая Люба з Целушок, Ірэна, Надзя, якой было далёка за трыццаць, але хутка перастала прыходзіць. А тут на здымку — Вася Місяюк, якога называлі Ромкам. Быў ён нават маім нарачоным, і ў сапраўднасці. Пасля стаў старшынёю кааператыва. Вельмі добры хлопец. Надзежда-архівістка намаўляла мяне, каб я выходзіла замуж за яго, бо ён інжынер. А Толік Петышук — быў гандляром, ён быў маім нарачоным у п'есе.

— Мы з Барысам выступалі, аж узнікла «малая „Лявоніха”». Я, яшчэ працуючы, чатыры гады ездзіла ў Варшаву ў музычную вышэйшую школу, — Валя Жэшка пасля ўжо музыкай прафесійна не займалася.

— Усе мы вучыліся ў „Ніве”, апрача галоўнага рэдактара і Міхася Хмялеўскага, у якіх была вышэйшая адукацыя, — дадае Ніна. — І дзякуючы ёй мы выйшлі на людзей. 11 студзеня 1958 года „Ніва” перасялілася ў Дом прэсы. Усе, цэлы калектыў, пераносілі, пакавалі ўвесь „ніўскі” дабытак. І не стала вялікай залы для рэпетыцый і сустрэч.

Ніна была з Плёсак, Валя — з Бельска, Вера — з Сакольніка (у Пушчы, цяпер за мяжой), хаця ўсе кажуць што яна з Орлі, Зося — з Бельска, Валодзя — з Цісоўкі (жонка ягоная з Крынак)...

— Засталося ў нас столькі песень, — лістае Вера песні сабраныя Клімюком. — І цяпер маглі б іх заспяваць, можа іх, дарэчы перакласці на нейкі іншы лад.

— Што нам даў удзел у мастацкай самадзейнасці? — мяркуе Ніна Бручко. — Я ўсё маладое жыццё марыла аб тэатры. Здзяйсняліся нашы мары, мы маглі знаёміцца, сустракацца і выступаць. Усе былі разам, па-беларуску. Кожны быў сабою. Рады мы, што сёння сустрэліся. Спадзяемся водгуку на наш успамін!

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

Перад гайнаўскай ратушай красуюцца два сілуэты зуброў: адзін з іх выстрыжаны з жываплота, а другі адліты з бронзы. Першы з іх яўна паказаны побач галоўнага скрыжавання горада, другі ж, адліты з бронзы помнік, прыхаваны ў суседнім парку. У іншых месцах Гайнаўкі таксама прэзентуюцца фігуры гэтых магутных парнакапытных з менш цікавага матэрыялу.

# Гайнаўскі зубр




Падумаў бы хто, што гайнаўскія зубрыныя скульптуры паведамляюць пра прысутнасць гэтых жывотных тут жа за горадам, у прадвечнай Белавежскай пушчы. Аднак мне здаецца, што справа мае другое дно, якое канфідэнтна засакрэчваецца гайнаўскім грамадскім актывам. А засакрэчваецца таму, што наш славуты горад мае незвычайнае мінулае, якое трэба, менавіта, хітра засакрэціць.

У шматлікіх гарадскіх цэнтрах стаяць помнікі важным асобам, якія мелі істотныя заслугі для данай мясцовасці ці яе наваколля; напрыклад, у цэнтры Кляшчэль стаіць помнік каралю Жыгімонту I Старому, які 490 гадоў таму ўзвёў мясцовасць у ранг горада. Праўда, у Гайнаўцы таксама ёсць помнік прысвечаны выдатнай асобе, папу Яну Паўлу II, але такія помнікі стаяць у многіх гарадах Польшчы, выконваючы ролю адмысловага агульнагрaмадскага ідэнтыфікатара. Дарэчы, вельмі падобная сітуацыя і ў Беларусі, якую метка ахарактарызавала філосаф Нэлі Бекус: „Феномен беларускай тэрыторыі можна лёгка адшукаць, ад'ехаўшы ад Мінска кіламетраў на дзесяць-пятнаццаць. Сам па сабе ён адлюстроўвае гамагеннасць і ў гэтым сэнсе нават пэўную знешнюю маналітнасць арганізацыі жыццёвай прасторы. Гэта ўсюдыіснасць архітэктурнай уніформы райцэнтра. Цалкам ідэнтычныя маленькія плошчы з помнікам Леніну (і хутчэй за ўсё яго іменем названыя), аднымі і тымі ж будынкамі, дзе сядзяць розныя людзі, але выконваюць аднолькавыя функцыі ў механізме дзяржаўнай машыны...". Хто ж тады, канкрэтна, адмыслова заслужыўся для Гайнаўкі?

Я часам наконт некаторых мясцовасцей прыводжу вытрымкі са складзенага ў 1880-1914 гадах *Слоўніка Каралеўства Польскага*. Ёсць там згадка і пра Гайнаўку, але вельмі мізэрная: „Hajnówka, alias Kozi Przeskok, wieś, pow. prużański, gm. Białowieża, 68 wiorst od Prużany, 193 dziesięciny. Pod wsią kurhan, zwany przez lud „Batariewa hora". Śród puszczy, o 1 wiorstę od drogi wiodącej z H. do Białowieży, stoją dwa kopce po 5 arszynów wysokości". Аўтары даведніка далі не надта дакладную інфармацыю, бо той Казіны Пераскок быў невялікай вёсачкай на левым беразе Лясной, распаложанай насупраць вёскі Горнае, якая была ўжо ў Бельскім павеце. Значыць той „пераскок" быў цераз колішнюю дзяржаўную граніцу паміж Каралеўствам Польскім і Вялікім Княствам Літоўскім.

У гадах, калі пісаўся *Слоўнік*, Гайнаўка пачала выходзіць з пушчанскіх зараснікаў. У канцы XIX стагоддзя праляглa там чыгуначная лінія, па якой расійскі цар катаўся ў Белавежу. Прыпынкаў, мяркую, на ёй не было, бо чаго ж бы меў царскі поезд спыняцца каля Горнага ці Казінага Пераскоку. Але ўжо ў пачатку XX стагоддзя цераз Гайнаўку пайшла другая лінія, вайсковага прызначэння, з Седльцаў у Ліду. І так Гайнаўка, цалкам выпадкова, апынулася на перасячэнні гэтых мадэрных на той час камунікацый.

Укіну яшчэ адну цытату з Нэлі Бекус: „Дзесьці людзі змаглі аваладаць прыродай і змяніць ландшафт на свой манер, падстроіць яе пад свой сумніўны эстэтычны густ. У нас жа чалавек не толькі не змог гэтага зрабіць — ён і не імкнецца ўступіць у заведама няроўную барацьбу з непераўзыдзеным валадаром, добраахвотна здаючыся пад яго ўладу. Прырода, якая існуе сама па сабе, чалавек, які не пакідае ў ёй слядоў і нават не імкнецца быць практычным, проста жыве на гэтай зямлі, здавольваецца самым неабходным — усё гэта адразу пазбаўляе звыклага сэнсу такія сферы жыцця, як гісторыя, палітыка, культура".

Цяпер пара мне паправіцца: не Гайнаўка пачала выходзіць з пушчанскіх зараснікаў, адзе пачалі яе адтуль выводзіць вонкавыя фактары. Па волі расійскага цара Мікалая II (народжаны 6 мая) мясцовасць становіцца чыгуначным вузлом. Па волі ж чарговага ўладара, нямецкага імператара Вільгельма II (народжаны 27 студзеня) — ці мо яго падданых — Гайнаўка становіцца прамысловым цэнтрам. Практычныя немцы не маглі прапусціць нагоды пакарыстацца выдатнай лясной сыравінай, якой у іх ужо не было, і гатовай інфраструктурай для рашучай „змены ландшафту на свой манер". Гайнаўка становіцца буйным прамысловым, а крыху пазней і пралетарскім, цэнтрам...

Міжваенны перыяд гэта зноў, здавалася б, свойская, гамагенная плынь часу. У Гайнаўцы адбываюцца, аднак, падзеі, якія істотна паўплывалі на выгляд — можа гэта прагучыць неверагодна, але — усёй пасляваеннай Еўропы. Мог бы хто сёння меркаваць, што ладжаныя ў „чырвонай" Гайнаўцы забастоўкі мелі праэкалагічны характар, аднак, як паказаў далейшы ход падзей, былі яны праявай не зялёнай, але чырвонай грамадска-сацыяльнай накіраванасці ейнага насельніцтва.

Розныя войны прыносяць меншыя ці большыя змены граніц; няйначай было і з Другой сусветнай вайной. На саміце ў Ялце былі зафіксаваны агульныя штрыхі пасляваннага дзялення Еўропы, аднак іх канкрэтная фіксацыя, прынамсі ў тутэйшай частцы сусветнай прасторы, адбывалася крыху пазней. Гэтак сталася і з той граніцай, якая ў нашым старонні вярталася да пракладзеных стагоддзямі назад арыенціраў; канкрэтныя рашэнні прымаў, як агульна вядома, Іосіф Вісарыёнавіч Сталін (народжаны 18 снежня).

Новая граніца, на гэты раз польска-савецкая, не пайшла, аднак, па тых слядах, якія асталіся ад даўняга размежавання Кароны і Вялікага Княства Літоўскага — яна мела пралегчы паводле даволі цьмяных распрацовак брытанскага лорда Керзана (народжаны 11 студзеня). Сталін пайшоў на некаторыя хітрыя ўступкі ў, здавалася б, карысць Польшчы. Пра Польшчу ён сам гаварыў, што яна падобная на карову, якую можна асядлаць, але вельмі нявыгадна так ездзіць. Вось і пракладка новай граніцы мела даць вялікаму правадыру новы павадок для больш шчыльнага прыручэння традыцыйна непакорнай усходнім уладарам краіны.

Польскія гісторыкі ломяць галовы, як гэта сталася, што Сталін аддаў Польшчы палову Белавежскай пушчы. Яны мяркуюць, што быццам польскія дэлегаты, якія паехалі ў Крэмль вызначаць новую граніцу, наракалі Сталіну, што польскай вярхушцы не будзе дзе ладзіць паляванняў. Сумняваюся, ці такое штосьць магло мець месца, бо на такую аргументацыю геніяльны правадыр мог ім запрапанаваць *охоту* на белыя мядзведзі ў нейкім ледавітым акіяне.

Мог Сталін пайсці па агульных слядах Керзана і захапіць усю Белавежскую пушчу, усталяваўшы граніцу па гістарычнай польска-літоўскай мяжы. Тады Гайнаўка апынулася б у прыгранічнай зоне і яе насельніцтва падлягала б высяленню ў Казахстан ці на Курыльскія астравы; ад Гайнаўкі астаўся б адно „казіны пераскок". Але вялікі правадыр прыняў не так Саламонава рашэнне наконт Белавежскай пушчы, як запусціў у ход вытанчаную палітычную камбінацыю, своеасаблівы польскі гамбіт.

Сталін, несумненна, падумаў пра Гайнаўку, пра яе свежанькае пралетарскае мінулае. І рашыў падкінуць яе Польшчы ў якасці адмысловага траянскага каня, якая ў непакорнай краіне мела стаць П'емонтам найперш калектывізацыі, а пасля і чарговых задуманых ім грамадскіх працэсаў, гамагенізуючы Польшчу да Савецкага Саюза. Пры ягоным жыцці гэтая ідэя спрацоўвала, аднак ягоныя гамагенныя наследнікі, з якімі ён не дзяліўся сваімі вытанчанымі планамі, не разгадалі іх і геніяльная ідэя правалілася.

Асабліва цяпер, у нашым XXI стагоддзі, выразна відаць, што Сталін правільна быў пабачыў глыбіню душы нашага мясцовага тутэйшага насельніцтва. Яе існасць пацвярджаюць стаханаўскія вынікі розных прэзідэнцкіх выбараў, якія паказвае мясцовы электарат. Мяркую, што гэтыя вынікі сузіраў з зайдрасцю нават прэзідэнт Лукашэнка і тая зайдрасць не давала яму спаць па начах. І ў выніку лячэння бяссонніцы Аляксандра Рыгоравіча паявіўся на свет Коля Аляксандравіч (народжаны 31 жніўня). Гайнаўка сціпленька вызначае ход далейшай вялікай будучыні...

Пры Сталіне Гайнаўка стала горадам. Асмелюся меркаваць, што гэта ён асабіста загадаў узвесці любімую ім мясцовасць у новы ранг, хаця фармальнае рашэнне прыняў верагодна тадышні ягоны стаўленік на Польшчу, фармальны прэзідэнт краіны Баляслаў Берут...

Вось, у вялікім скарачэнні, маем тыя гістарычныя постаці, якія вырашальным чынам фармавалі сучасны воблік Гайнаўкі. І, здавалася б, што горад павінен ушанаваць іх нейкім чынам, ці то тапанімічным, ці скульптурным. Толькі такое ўшанаванне ў цяперашнім грамадска-палітычным сузор'і было б звычайнай антыгамагеннай ерассю, якая, несумненна, выклікала б вялікі розгалас у мясцовым, а мо і *curiosity*ў больш шырокім маштабе. Таму перад гайнаўскай ратушай стаіць бронзавая скульптура зубра.

Зубр — гэта ў вялікім спрашчэнні задыякальны Авен, Бык. Пад гэтым сузор'ем (21 сакавіка — 20 красавіка) не нарадзілася ніводная з названых раней найважнейшых для Гайнаўкі асоб. Гайнаўскі зубр, гэта арыгінальны помнік-мімікрыя асноваезакладчыкам горада, які мясцовым актывістам удалося кантрабандзіраваць ад зоркага нагляду вартавых актуальнай у краіне гамагеннасці.

Беручы пад увагу фундаментальнае значэнне помніка, можна было б падумаць, каб яго пакрыць пазалотай. Але гэта магло б спарадзіць асацыяцыю з залатым цяльцом. Мітрапаліт Сава (народжаны 14 красавіка) мог бы ў такім выпадку заявіць пра некананічнасць помніка і трэба было б яго перавезці ў Беласток. Можа таму, на ўсякі выпадак, гэты рэалістычна-сюррэалістычны помнік канфідэнтна прыхаваны за шчыльнай зеленню перадмагістрацкага парку.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Сустрэча ў Крынках

**Дамініка Борань — карэнная люблінянка, выкладчыца кафедры сучаснай філасофіі Інстытута філасофіі Люблінскага ўніверсітэта імя Марыі Складоўскай-Кюры. Часта падарожнічае па свеце, найчасцей у якасці ўдзельніцы міжнародных філасофскіх канферэнцый. У Крынкі завітала зусім прыватна, без партатыўнага камп'ютара і навуковай літаратуры.**


Здымак з калекцыі гераіні

— Дамініка, ці гэта Твая першая сустрэча з Крынкамі?

— Ужо трэцяя. Прынамсі раз у год стараюся заглянуць да вас. Раней Беласток як і ўся Беласточчына былі для мяне толькі пунктамі на карце. Аднойчы давялося мне праязджаць тудэма па дарозе ў Латвію. Гэта было ўначы і нічога я не разгледзела.

— Чаму менавіта Крынкі?

— З Крынкамі я сутыкнулася дзякуючы сваёй былой студэнтцы і сяброўцы Магдалене Чабан. Яшчэ ў час вучобы на люблінскай раманістыцы яна запрасіла мяне ў бацькоўскую хату ў госці. Гэта была любоў з першага позірку. Месца проста незвычайнае. Мабыць, нідзе больш не сустрэнеш такой цішыні і спакою. Ёсць і чым вока палюбаваць. Некранутая прырода з многімі відамі птушак. От так, звычайна, у адным месцы можна сустрэць і лася, і зубра. Ваша зямля — сапраўдны скарб для ўсіх, хто шукае кантакту з натурай, дзікай прыродай. Зацікаўленым раслiннасцю тут таксама рай. Зёлкавыя культуры вельмі цікавыя і вартыя асаблівай увагі. Думаю, кожны знойдзе тут нешта для сябе. Здаецца, што гэта адзін з менш вядомых рэгіёнаў, калі браць пад увагу прыгожасць краявіду. Дзесьці ў Польшчы рэдка ён згадваецца, а калі так, то ў элітарных кругах, у культуразнаўчым, этнаграфічным, гістарычным ці літаратурным кантэкстах. У чыста турыстычным плане людзі, якім не па душы курортныя цэнтры, найчасцей шукаюць сваёй прасторы ў Бяшчадах ці на Расточы. Крынкі проста цудоўныя, паветра пахне незвычайнасцю і асаблівым спакоем. Адусюль праменіць утульнасцю і гасціннасцю. Людзі тут іншыя, непаўторныя, надта сяброўскія. Не ведаю ці толькі мне так пашанцавала, але з кожным сваім візітам напаўняюся тут асаблівым душэўным задавальненнем. Проста адчуваю сябе тут добра.

Я пад вялікім уражаннем дбайнасці мясцовага насельніцтва, якое так файна даглядае свае панадворкі. У адрозненні ад іншых куткоў Польшчы не відаць тут халтуры. Увогуле не заўважаецца паўсюль паўтыканых пасудзін з сурфініямі ці гліняных гномікаў. Нават на Падгаллі, дзе людзі сапраўды павінны пастарацца, ці ў Бяшчадах на прыхатніх панадворках заўважаецца шмат асабліва нецікавых рашэнняў, не кажучы ўжо пра саму архітэктуру. У вашым будаўніцтве адчуваецца вытанчанасць, няма тут правінцыянальнага падганяння недахопаў раскошай.

— Як успрымаеш мясцовы, культурны ландшафт?

— Шчыра кажучы, мае веды ў той галіне даволі сціплыя. Яны базуюць толькі на некалькіх культуразнаўчых сімпозіумах. Гэтага становча недастаткова. Тут галоўнае сутыкненне ўжывую, рэальнае перажыванне. Пабывала я пару разоў у навакольных цэрквах, між іншым, у Супрасльскім манастыры, неабавязкова на багаслужбах. Тут мяне парушыла незвычайная сувязь паміж бацюшкам і вернікамі. Такое файнае, аўтэнтычнае схіленне над чалавекам, блізкасць без пышнасці. Для мяне гэта штосьці зусім новае і экзатычнае. Падобная атмасфера панавала таксама і ў Яблачыне. Няма тут напышлівасці, якая перашкаджае мне ў каталіцкай імшы. Праваслаўе вабіць таксама незвычайнай, вонкавай прыгожасцю. Гэтая эстэтыка мне вельмі падабаецца.

— Гаворачы пра Крынкі, цяжка не ўзгадаць Сакрата Яновіча.

— Ведаю яго перадусім з аповедаў. Пакуль у руках трымала толькі яго „Выбраныя творы". Гэта добрае, уражлівае пісьменства, файна чытаецца. Напэўна няшмат такіх таленавітых лакальных творцаў. Чамусьці Свентакшыскае ваяводства трактуюць як пісьменніцкі рэгіён, толькі не разумею чаму. Людзі захапляюцца, для прыкладу, Мыслiўскім. Я таксама яго цаню, асабліва „Голы сад" вельмі мне спадабаўся. У мяне складаецца ўражанне, што Сакрат Яновіч усё-такі пісьменнік невядомы. Варта яго дзесьці праслаўляць, прапагандаваць.

— Радыёпрыёмнік, якім тут карыстаешся, прымае амаль выключна беларускія хвалі, на мабільніку паяўляецца беларускі аператар, на вуліцы таксама не заўсёды гавораць папольску. Як сябе ў такіх умовах адчуваеш?

— Ваша мова цудоўная. У мяне заўсёды жывое вялікае зацікаўленне Усходам. Сама я была там толькі пару разоў, але маю сяброў — настаўнікаў у польскіх школах у Беларусі. Таму сутыкнулася з гэтай часткай свету прынамсі ў аповедах. Шматкультурнасць мне адпавядае, гэта асаблівае багацце. Яно напэўна не дазваляе паказваць пальцам, што ў нас лепшае, а што ў вас горшае.

— Часта падарожнічаеш па свеце. Скажы, чаму вярнаешся менавіта сюды?

— Гэта месца, якое кожны хоча наведаць. Тут поўны аўтэнтызм, камерцыйнае стаўленне амаль не заўважаецца. Напэўна трэба гэта зберагаць. Адзінай невыгодай з'яўляецца транспарт — кепская сувязь паміж Люблінам і Беластокам, не гаворачы ўжо пра даезд у Крынкі.

Напэўна буду сюды прыязджаць і прывозіць цікавых людзей. Варта было б падумаць пра арганізацыю тут, для прыкладу, філасофскіх бясед. Атмасфера для гэтага асабліва спрыяльная, тым больш што найбліжэй мне да філасофіі Сакрата. Здаецца, што толькі яна ў змозе пратрымаць выпрабаванні часу.

— Тады да чарговай сустрэчы ў Крынках.

**Іаанна ЧАБАН**




Якім бы даўнім не было мінулае, яно так ці інакш дае пра сябе знаць у нашым жыцці. Вось, напрыклад, колькі стагоддзяў прайшло з той пары, як нашыя продкі перасталі шанаваць паганскіх багоў, але і дагэтуль мы плюем праз левае плячо, гукаем вясну, шукаем папараць-кветку.

Зразумець, чым жылі нашыя далёкія продкі было б немагчыма без разнастайных знаходак, якія яны выкарыстоўвалі ў сваёй штодзённай рэчаіснасці. Ну а калі нам удаецца праз спрэс стагоддзяў і тысячагоддзяў разгледзець хоць частку асаблівасцей старажытнага жыцця, то вялікая заслуга ў тым такой навукі як археалогія.

Тэрыторыя, на якой жывуць сучасныя беларусы, здаўна была заселена людзьмі. Цягам тысячагоддзяў яны аралі сваю зямлю, абаранялі яе, знаходзілі ў ёй свой апошні спачын. Аб гэтым сведчаць як летапісы, так і археалагічныя артэфакты, частка якіх стала нашым набыткам, дзякуючы ў тым ліку Асавецкай археалагічнай экспедыцыі. На сайт яе мы завітаем.

Адметна, што далёка не кожная беларуская археалагічная экспедыцыя мае сваю старонку ў інтэрнэце. Таму асавецкі сайт, адрас якога **http://asaviec.by**, цікавы і з гэтай акалічнасці. Ён мае даволі просты выгляд, але разам з тым вельмі насычаны інфармацыяй, з якой нават не археолаг адкрые шмат цікавага і карыснага ў сэнсе папаўнення ўласнай эрудыцыі.

Як распавядаецца на галоўнай старонцы сайта, Асавецкая экспедыцыя прысвечана даследаванням аднаго з найбольш унікальных археалагічных комплексаў неаліту — бронзавага веку на тэрыторыі Беларусі і Усходняй Еўропы — Крывінскага тарфяніка. Ён знаходзіцца ў паўднёвай частцы Беларускага Паазер'я ў Віцебскай вобласці, што на поўначы Беларусі.

„У рэгіёне магчыма стварэнне непарыўнай культурна-храналагічнай рэканструкцыі працяглацю каля 2-х з паловай тысячы гадоў. За гэты час у рэгіёне мяняюцца 3 культуры — нарвенская, усвяцкая, паўночна-беларуская. Найбольш адметным момантам, які вылучае дадзены археалагічны комплекс ад іншых на тэрыторыі Беларусі гэта тое, што восем з дзесяці вядомых тут помнікаў з'яўляюцца тарфянікoвымі. Як вынік, культурны слой паселішчаў утрымлівае не толькі керамічныя і крамянёвыя артэфакты, звычайныя для іншых помнікаў гэтага часу, але і артэфакты з косткі, рогу, дрэва, кары, бурштыну. А гэта дае вельмі шмат дадатковых магчымасцей для рэканструявання духоўнай і матэрыяльнай культуры, побыту старажытных жыхароў паўночнай Беларусі", — распавядаюць на галоўнай старонцы археолагі пра мясціны, якія яны рыюць не толькі рыдлёўкамі, але і пэндзлямі.

Рубрыка „Археалогія" дае звесткі пра тое, калі пачаліся, як перарываліся і як працягваліся археалагічныя даследаванні Асаўца. Дарэчы, цяпер яны адбываюцца штогод і заўсёды з вынікам, бо, як сцвярджаецца на сайце, „унікальнасць археалагічных помнікаў дадзенага мікрарэгіёна палягае ў тым, што ўсе яны маюць перакрыты торфам культурны слой, што захавала арганічныя артэфакты ад згнівання".

Паглядзець на знаходкі і як працуюць археолагі ў Асаўцу можна, зазірнуўшы на старонкі „Гісторыя раскопак" і „Фотаальбом". Калі ж некага гэта ўсё вельмі зацікавіць, то ў якасці валанцёра можна далучыцца да экспедыцыі, запоўніўшы адпаведную анкету.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара


Фота з архіва Сяргея Чыгрына

Прайшоўшая розныя турмы

# 110 гадоў з дня нараджэння Алены Лябецкай

Алена Лябецкая нарадзілася 15 ліпеня 1903 г. у сялянскай сям'і на хутары Лагуцева (цяперашні Дзятлаўскі раён). У 1910 г. бацькі пераехалі на жыхарства ў Гродна. У горадзе над Нёманам Алена вучылася ў падрыхтоўчым класе дзявочай гімназіі. У 1914 г. сям'я ў выніку бежанства выязджае ў расійскую Калугу, дзе Лябецкая працягвае навучанне ў гімназіі, што была эвакуяваная з Лодзі. На радзіму вяртанне адбылося ў 1920 г.

З сярэдзіны 1920-х гг. уключылася ў грамадска-вызвольны і культурны рух. Стварала гурткі Таварыства беларускай школы. Была арганізатаркай і ўдзельніцай беларускіх спектакляў, канцэртаў на Дзятлаўшчыне, Слонімшчыне, Зэльвеншчыне. Узначальвала гурток ТБШ у мястэчку Казлоўшчына. Алена Лябецкая не толькі арганізоўвала вечарыны, але і сама выступала на імправізаваных сцэнах, чытала творы Янкі Купалы і іншых беларускіх паэтаў. У лістападзе 1927 г. была абрана сакратаркай Слонімскай акруговай управы ТБШ. У 1928 г. была арыштавана тагачаснай польскай уладай. З 1929 г. жыла ў Вільні, працавала ў Галоўнай управе ТБШ, загадвала беларускай бібліятэкай-чытальняй. У 1929 г. была дэлегаткай Першага антыфашысцкага кангрэса ў Берліне. Была сябрай заходнебеларускага камітэта па падрыхтоўцы Еўрапейскага сялянскага кангрэса, пазней яго дэлегаткай. Зноў арыштавана ў лютым 1930 г. была асуджана на 6 гадоў зняволення. У выніку абмену палітвязнямі паміж Польшчай і СССР у 1933 г. апынулася ў Мінску. Вучылася на геолага-геаграфічным факультэце БДУ (1934-1938), удзельнічала ў рабоце Міжнароднай арганізацыі дапамогі змагарам рэвалюцыі. У 1938 г. была зняволена ў савецкім канцлагеры ва Усходняй Сібіры. Выйшла на волю ў 1947 г. Пасля гэтага жыла ў Слоніме. Працавала на службе тэхнічнага ўліку ў Белшахтлесе, затым у 1951-1958 гг. — бухгалтаркай сектара кінафікацыі ў аддзеле культуры Слонімскага райвыканкама. Пакінула мемуарныя нататкі пра сваё жыццё. Мемуары былі надрукаваны ў кніжцы „У суровыя гады падполля" (Мінск 1958).

Мужам Алены Лябецкай быў таксама вядомы дзеяч беларускага грамадскага і культурніцкага руху Павал Крынчык, таксама нараджэнец Слонімшчыны, які быў актывістам ТБШ і таксама быў рэпрэсаваны, але дажыў да вызвалення. Алена Лябецкая памерла 28 студзеня 1982 года, пахавана ў Слоніме.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# „Цаглінкі” над Ясельдай

**Кожны год нашага жыцця пасвойму адметны, багаты на святы і юбілеі. Для калектыву „Цаглінкі” 2013 год аказваецца быць вельмі насычаным і інтэнсіўным. Выступаюць яны са шматлікімі канцэртамі ў сваёй краіне, Польшчы, выязджаюць за граніцу, у тым ліку ў братнюю Беларусь.**

І вось ізноў на адрас войта Нараўчанскай гміны прыйшло радаснае запрашэнне. Пінскі райвыканкам запрасіў „Цаглінкі” на мерапрыемствы трох вясёлых святаў: абласное свята-конкурс гарманістаў і выканаўцаў прыпевак „Грай, гармонік! Звіні, прыпеўка!”, абласное свята сямейнай творчасці „Пад дахам дома твайго” і рэгіянальнае свята аматарства „Захапленні на любы густ”.

„Цаглінкі” як заўсёды салідна падрыхтаваліся і, гайда, у Беларусь. На Піншчыне прывіталі нас вельмі шчыра, задушэўна. На пачатку нас закватаравалі, накармілі, а пасля павезлі ў Парэчча, дзе 28-29 чэрвеня адбыліся святкаванні. Свята праводзілася ў мэтах далейшага развіцця і папулярызацыі народна-інструментальнай і сямейна-роднаснай мастацкай творчасці, прыцягнення ўвагі грамадства да праблем сям’і, а таксама захавання і пераемнасці нацыянальных сямейных традыцый.

У цудоўным маляўнічым месцы на пляцоўцы берага Ясельды каля вёскі Парэчча выступіла каля 50 выканаўцаў — гарманісты, прыпевачнікі, народныя інструменталісты, ансамблі, аматарскія калектывы з многіх раёнаў Рэспублікі Беларусь. На свята былі запрошаны калектывы мастацкай творчасці з замежжа: калектыў народнай песні „Розвазьке” з Украіны і два нашы калектывы — „Маланка” з Бельска-Падляшскага і нашы „Цаглінкі”.

Ва ўдзельнікаў святаў была цудоўная магчымасць пазнаёміцца з народным музычным мастацтвам суседзяў, а таксама ўбачыць лепшых выканаўцаў на народных інструментах, выканаўцаў прыпевак і ацаніць творчасць сямейных калектываў Брэсцкай вобласці. Праграма святаў была насычаная і цікавая: на беразе ракі разгарнулася выстава дэкаратыўна-прыкладной творчасці сямейных калектываў і аматарскіх аб’яднанняў „Захапленні на любы густ”, працавала дзіцячая пляцоўка „Святочныя забавы”.

Два дні святаў — гэта сузор’е лепшых выканаўцаў народнай музыкі, вясёлай прыпеўкі, яркіх сцэнічных касцюмаў, гэта песні і танцы пад гармонік, новыя таленты і знаёмства з творчасцю сямейных калектываў. Агульны каларыт свята дапаўняла цудоўна аформленая сцэна і ўся пляцоўка ў сялянскім стылі. Свята заўсёды пакідае след, выклікае пачуцці і эмоцыі, узнімае настрой, надае адпачынку асобную прывабнасць. Такія святы з яркай нацыянальнай афарбоўкай асабліва падабаюцца ўдзельнікам, яны захоўваюць традыцыі і выяўляюць народныя таленты, павышаюць выканаўчае майстэрства, прывіваюць любоў да мастацкай творчасці і выклікаюць жаданне дарыць свой талент, сваё майстэрства людзям.

Мне падчас гэтых двух дзён сустрэч з людзьмі, якія прысутнічалі на канцэртах „Цаглінак” і „Маланкі”, ад многіх субяседнікаў даводзілася пачуць вельмі мілыя словы на тэму іх рэпертуару і выканаўчага майстэрства. Нашаму калектыву было дадзена запазнацца з горадам Пінскам. Наведалі мы помнікі архітэктуры на беразе ракі Піны, цэрквы і касцёлы, набярэжную і парк. Маю ўвагу асабліва прыцягнулі дарогі — сімвал перамен, дынамічнага руху наперад. Яны ў Беларусі — супер!

**Віктар БУРА**

## За што нам плаціць?..

У 27 нумары „Нівы” ад 7 ліпеня друкаваўся мой допіс „Куды смецце?”. Справа тычылася новаўведзенага закону аб вывазцы нечыстотаў, які абавязвае ад 1 ліпеня . У час размовы намеснік войта гміны ў канцы чэрвеня гаварыў: „Таргі на вывазку адпадаў у Чаромсе выйграла Гайнаўскае прадпрыемства камунальных паслуг. У першым тыдні ліпеня будуць заключацца дамовы гміны з паасобнымі гаспадарамі, а Прадпрыемства камунальных паслуг забяспечыць кантэйнерамі і мяшкамі на селектыўную зборку”.

9 ліпеня (аўторак) я падаўся ў гміну. Не заспеў на рабоце ані войта, ані яго намесніка. На маё пытанне калі атрымаю мяшкі на селектыўную зборку адпадаў, чыноўніца Валянціна Верамчук, якая знаходзілася ў канцылярыі, адказала: „У адзін дзень немагчыма развезці рэчы для ўсіх. Сёння развозяць і забіраюць адпады ў Чаромсе-Станцыі. Заўтра будуць абслугоўваць Кузаву і вуліцу Вісьнёву. Хто выставіць смецце перад браму ў мяшках, дык забяруць”. А як аказалася на практыцы? Мяшкі на селектыўную зборку з графікам прыёму змешаных і селектыўных камунальных адпадаў развозілі службовай „Нысай” і запіхалі ва ўязную браму, не паведамляючы аб гэтым гаспадара. Калі гэта было, цяжка зараз сказаць. Ад калегі-аднавяскоўца я пачуў, што валяючыся на панадворку графік знайшоў ён 11 ліпеня. У ім было напісана: „План-графік прыёму камунальных адпадаў для сямейнай забудовы на тэрыторыі Чаромхаўскай гміны ў перыядзе ад 1 ліпеня па 31 снежня 2013 года для салэцтваў: Беразышчы, Баброўка, Янцэвічы, Кузава, Апака-Вялікая, Пагулянка, Полаўцы, Зубачы і Вулька-Тэрахоўская вызначаюцца тэрміны: змешаныя адпады ў кантэйнерах — 10 ліпеня, 14 жніўня, 11 верасня, 10 кастрычніка, 14 лістапада і 10 снежня. Селектыўныя адпады (жоўтыя, сінія і зялёныя мяшкі) — 11 верасня і 10 снежня; 11 верасня вызначаецца тэрмін прыёму селектыўнай зборкі зялёных адпадаў у мяшках. Прыём попелу вызначаецца ў прызначаных для гэтай мэты мяшках адпаведна: 10 кастрычніка, 14 лістапада і 10 снежня”.

Такім чынам гаспадар не змог выставіць смецця ў назначаным тэрміне, г.зн. 10 ліпеня. Аб падобных сітуацыях гаварылі мне і іншыя чарамшане. Уваткнутая картка паперы з графікам аказалася звычайнай асечкай, бо даручылі яе пасля тэрміну. А гміна патрабуе плаціць законную стаўку за вывазку нечыстотаў за ліпень. На вясковых сходах войт хваліўся, што толькі Чаромхаўская гміна прыняла карысную жыхарам стаўку „ад каміна” — 7 зл. за селектыўную зборку адпадаў і 12 зл. за змешаную. Зараз выявілася, што на сесіі Рады гміны прынялі новыя стаўкі — 13 зл. за селектыўную зборку і 18 зл. за змешаныя адпады за кожны месяц. Варта адзначыць, што згодна графіку селектыўныя адпады будуць забіраць штоквартальна, а не штомесячна, затым, як можна патрабаваць грошы за невыкананую паслугу? І справа апошняя. Ці гміна абавязана заключаць пісьмовыя дамовы з паасобнымі гаспадарамі на вывазку нечыстотаў, ці ў абавязковым парадку патрабаваць ад іх вызначаных Радай гміны ставак? Па-мойму, у рынчнай эканоміцы грамадзянін абавязаны плаціць належнасць за выкананую паслугу, а не за абсурдны закон, прыняты абраннікамі народа.

**Уладзімір СІДАРУК**

PS. Незразумелым застаецца мне факт інфармавання на вясковых сходах жыхароў Чаромхаўскай гміны аб нерэальных стаўках за вывазку нечыстотаў, калі не адбыліся яшчэ таргі з камунальным прадпрыемствам. Гэта ж, па-мойму, звычайны прапагандысцкі трук, так як і шматлікія іншыя выбарчыя абяцанкі цяперашняга войта.

**(ус)**

# 21.07 — 27.07

**(22.03. — 20.04.)** 20-24.07. вялікія змены. Можаш пераняць справы ў свае рукі, а іншыя, асабліва шэф, гэта ацэняць. Дастаткова будзеш мець добрых задум. Да 22.07. разбярэшся сярод сваякоў, хто сапраўды табе спрыяе. 24-28.07., нават калі будзеш добра сябе адчуваць, услухайся ў свой арганізм, ідзі абследавацца ў лекара. З 26.07. хтосьці схоча перасварыць цябе з калегамі.

**(21.04. — 21.05.)** З 22.07. твой дом будзе сапраўдным прыстанішчам, таксама месцам для творчасці. А калі выбярэшся ў адпачынак, добра табе будзе ў малых, маналюдных курортах. 21-22.07. пагражаюць табе сур’ёзныя канфлікты. Небяспека звязаная з маланкай і электрычнасцю.

**(22.05. — 22.06.)** Усе будуць слухаць тваіх парад. Але будзеш падазраваць, што не ўсе твае сваякі табе спрыяюць (і, на жаль, будзеш мець рацыю). Затое памогуць табе сябры. Цяпер лепш пазбягай вельмі шматлюдных месцаў. 26.07. можаш сустрэць свой ідэал, але жыццё гэта можа балюча апраўдаць. З 26.07. дробныя праблемы, на якія ты не звяртаў увагі, будуць вельмі дакучлівымі; можаш пасварыцца з блізкімі, а пасля гэтага шкадаваць.

**(23.06. — 23.07.)** Будзеш мець вялікую паспяховасць ды ўмеласць і козыры ў пераконванні іншых. Добры час для набывання новых ведаў і ўмеласцей. Але 22.07. не парывайся з матыкай на сонца; не ацані памылкова сітуацыі. З 26.07. лёгка будзе аб скандалы і спрэчкі; схільнасць да неабдуманых выдаткаў.

**(24.07. — 23.08.)** Усміхнецца да цябе шчасце ў фінансах і ў каханні. Кідайся ў вір кампанейскага жыцця! Бо ўжо з 26.07. можа нахлынуць на цябе меланхалічны настрой. Паласа поспехаў у фінансах пачнецца 22.07., рыхтуюцца шанцы на заробак сапраўды вялікай касы! Але з 24.07. (да 28.07.) не пазычай, не купляй у падазроных прамоцыях і асцерагайся злодзеяў.

**(24.08. — 23.09.)** Былое прыгадае табе пра сябе. Венера, што перасоўваецца 22.07. у твой знак, прадвяшчае жарснасць. Гэта і добры час для сяброўства. Цяпер лягчэй даруеш іншым і забудзешся пра іх правіны. Але: 24-28.07. кепскі час у пары, будзеш падазраваць найгоршае; калі нават твая каханая асоба невінаватая, не абыдзецца без бурлівых сварак і ціхіх дзён.

**(24.09. — 23.10.)** Да 23.07. усё ў пары вернецца да нормы. Самотныя Шалі не будуць наракаць на недахоп зацікаўлення іншага полу; будуць новыя знаёмствы. Калі з’едзеш у адпачынак, турбаваць цябе будуць працоўныя справы. А на працы здарацца нагоды, якіх змарнаванне было б грэхам… З 24 (да 28.07.) зоркі прадбачваюць магчымасць расчараванняў і фінансавых праблем.

**(24.10. — 22.11.)** Падумай аб актыўным адпачынку. А і на працы маеш магчымасць пераняць цікавыя праекты. Але задбай аб адносіны з калегамі, бо яны прынясуць плён у будучыні. 20-24.07. — твой шчаслівы час. Варта цяпер здзяйсняць свае мары, бо гэта мае шанцы ўрэшце ўдацца! Хаця 25-28.07. лёгка дойдзе да непаразуменняў. З 26.07. не ўлезь у нейкую кепскую ацэнку канфліктнай сітуацыі, бо можа табе пасля моцна забалець.

**(23.11. — 22.12.)** Час пачаць любоўныя паляванні! Але мусіш гарэць шчырым пачуццём. Варта ўрэшце паехаць куды-небудзь на канікулы, бо на працы можа штосьці не ладзіцца. Поўня Месяца 21-23.07. будзе спакушаць цябе да перакрочання тваіх прынцыпаў: пільнуйся, бо страціш! З 25.07. адчуеш стому.

**(23.12. — 20.01.)** Поўня Месяца з 22.07. падкажа табе пару трапных фінансавых вырашэнняў, падсуне цікавыя нагоды для заробку ці ашчаднасці. Але 24-28.07. не разлічвай на тое, што ўсё пойдзе гладка, але і не страчвай веры ў свае сілы. З 26.07. не набярыся комплексаў!

**(21.01. — 19.02.)** Знакаміты час на падарожжы, моўныя курсы, падагнанне адсталасцей, задбанне аб цела і галаву. Добра было б пайсці на даўжэйшую курацыю. Але і 20-24.07. можаш добра зарабіць, будзеш схільны да хуткіх і канкрэтных дзеянняў. Зайграй у латарэю!

**(20.02. — 21.03.)** Прагоніш чорныя думкі, зацікавішся чымсьці, што можа адмяніць тваё жыццё. 21-22.07. рызыканцкія прыёмы могуць прынесці добры вынік! 24-28.07 не панікуй, не дзейнічай пад уплывам страху, каб не трапіць у кабалу.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — прыказку.

1. пучок галінак для падмятання падлогі = 14 _ 19 _ 18 _ 17 _ 16 _;
2. гаспадыня раю = 13 _ 10 _ 11 _;
3. напрыклад, бор, пушча = 8 _ 3 _ 4 _;
4. не верх = 5 _ 6 _ 1 _;
5. начны адпачынак = 7 _ 9 _ 12 _;
6. калючка, напрыклад ружы = 20 _ 15 _ 2 _.

(ш)

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| | | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | | | | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 24 нумара**

Роў, буй, вянок, дуга, юрта, субота, рыс, вуялка, бяседа, Ява, жэле, вадкасць, прытча.

Рашэнне: **Будоўлю руйнуе сырасць, а чалавека бяда**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 100 egz.

# Точыць вершы Янка Федзюкевіч


фота Міры ЛУКШЫ

— Не, можа палітычных не будзем друкаваць. Тут яны моцна „ўшчыплівыя" для ўлад, — кажа Янка Федзюкевіч, стары настаўнік. Пісаў у „Ніву" з Баброўнік. Цяпер ён жыве ў Гарадку. Мы ў яго дома на пачатку Гарадка, па вуліцы Беластоцкай. Раскрыў свае сшыткі з вершамі, запісаныя роўным каліграфічным почыркам. — Але — пра „Нашы рэформы", вось „Сялянскія клопаты", „Наша будучыня"... *Запрагайце, хлопцы, коней, хопіць трактарам катаць...* Піша пра тое, што яго хвалюе. *У Баброўніках пражыў я гадоў трыццаць, пакуль школу не пераняў новы ўладар. А ў мінуым не магло мне нат прысніцца, каб будынак гэткі хтосьць узяў прадаў. Школу збудавалі згоднай грамадою ўсе людзі з навакольных сёл бясплатна, каб гулялі дзеці радаснай гурбою і вучыліся ўсе дзеці на выдатна.* А тут яшчэ горшы...

— Як „горшы"? Кранае моцна?

— У тым і справа. *Гэта быў дзевяносты. Гістарычны год, няпросты. Усе сталі тут чакаць, каб прэзідэнта выбіраць. І нарэшце дачакалі, кандыдатаў усіх пазналі. (...). І хто ўвайшоў у кандыдаты? (...) Лепш не трэба было быць, як на трон Л. усадзіць. В. кніжак не чытаў, але сам дзве іх напісаў... (...) Ды цяпер усім навука — не галасуйце на невука.* Ды хопіць вершаў пра палітыку! Пра нашае трэба! Прыязджалі з Беларусі ветэраны, і ім таксама верш напісаў. Пра юбілеі Гарадка, пра „Сяброўскую бяседу"... *Вы сусветнай вайны ветэраны, колькі вёрст вы прайшлі ў баях, вы — былыя байцы, партызаны, пракавалі вы нам мірны шлях. Прайшла маладосць ваша ў годы цяжкія, у магілах аставілі многіх сяброў, а цяпер вы старыя, сівыя, мала хто з вас астаўся здароў.*

У новай „Ніве", што ляжыць на стале, зацікавіўся артыкулам аб 55-годдзі „Белавежы".

— О, спадар Аляксандр Баршчэўскі! Як ён там?.. Віктара Шведа нядаўна я бачыў, прыязджаў да нас на „Сяброўскую бяседу".

...Я сам з Малых Азяран у Крынскай гміне. Мой шлях быў цікавы. Напачатку мы былі за савецкай уладай, да 1948 года. 25 мая 1948 года выраўнавалі мяжу і наша вёска апынулася ў Польшчы. Я ў Савецкім Саюзе хадзіў у трэці клас беларускай школы, але там усё было па-руску. А калі перайшлі сюды, я пайшоў у школу ў Гурцы, хадзіў да пачатку пятага класа. Вядома, тады мне было нялёгка, не ведаючы літар. Трэба было вывучыць польскі алфавіт. Цяжка было мне вучыцца, але якась даваў рады. А кончыў пачатковую школу — канчаючы 5, 6 і 7 клас — ужо ў Крынках. Мы з аднаго года (1936) як Сакрат Яновіч, але ён вучыўся ў вышэйшым класе, бо раней пайшоў у школу. Пайшоў я вучыцца ў Беласток у Педагагічны ліцэй, са спецыяльнасцю рускай мовы і літаратуры. Называўся той ліцэй *Liceum Przyjaciół Dzieci*. Школа была па вуліцы Міцкевіча, там, дзе цяпер юрыдычны факультэт Універсітэта. Скончыў яе, пайшоў на работу, адразу ў Коматаўцы. Захапіла мяне войска. З Коматаўцаў (1964) перайшоў я ў Баброўнікі. Тут мы жылі трыццаць гадоў. У час работы канчаў Настаўніцкую студыю па спецыяльнасці фізіка з хіміяй. А пасля запісаўся ва ўніверсітэт у Кракаве, на рускую філалогію, завочна. І так у Баброўніках настаўнічалі мы з жонкай да часу, пакуль не змянілі арганізацыйны ўзровень школы (у 1987 г. з васьмігодкі на класы I-IV) і перайшлі мы ў Вераб'і. У Вераб'ях было больш настаўнікаў, вучняў давозілі — ад Лужан, Коматаўцаў, Ярылаўкі, Баброўнік... Працаваў з 1955 года да 1985 года. З Вераб'ёў пайшлі мы з жонкай на пенсію (школа ў Вераб'ях яшчэ крыху існавала). Пабудавалі мы хату ў Гарадку. І з 1994 года сядзім тут, старэем...

— Школу ў Баброўніках, дзе Ян быў кіраўніком, хтосьці, нейкі пан Дзеніс, купіў ад гміны, і цяпер стаіць зруйнаваная, — дадае жонка Яна, Галіна. — Войска хацела ўзяць будынак, але давала замала грошай; пагранічнікі занялі офісы будынак кааператыва ў Лужанах. Пан Дзеніс змадэрнізаваў быў будынак, зрабіў кавярню, але немагчыма было з дарогі на мяжу спыніцца і з'ехаць у той бок машынай. Новы гаспадар памёр, спадчынніцы раз'ехаліся, і будынак, пабудаваны ў грамадскім пачыне, цяпер у страшным стане, і нявдома нават хто яго ўласнік. А Янка-залатая ручка не толькі вучыўся, але меў і іншыя цікавыя заняткі.

— Калісь, будучы ў Баброўніках, я тачыў, але і вырэзваў розныя рэчы з пенапласту (стырапяну). Гэта былі літары, лозунгі, гербы, розныя іншыя формы, якія ў мяне заказвалі іншы школы. Я зрабіў такую прыладу для вырэзвання, таму што пенапласт не парэжаш нажом. Трэба было вырэзваць электрычнай прыладай, якая тапіла бераг формы. Сам я рабіў, прыязджаў і ў школы, паказваў. Нацягваў прыладу, падчапляў фанеру над формай на шнурку, каб не пружынілася. Дрот быў падключаны да электратоку, рагараваўся і рэзаў пенапласт. З маіх вырабаў можна было рабіць цэлую дэкарацыю школы. А ў Баброўніках быў старычок, які таксама тачыў, але ён рабіў усё аднолькавае. А я ўзяўся тачыць з драўніны розныя кшталты, розныя ўзоры выдумляць. І графіны, келіхі, шкатулкі, цацкі... З цацак — рабіў „бонка"-ваўчка, з ручкай, дзірачка ў ручцы, праз дзірку шнурочак праходзіў, зверху булаўка, нізам тонкая ножка. Як пацягнеш за шнурок, то ваўчок вельмі доўга круціўся. Парадаваў дзяцей я гэтым ваўчком!

А вершы? Пачаў пісаць, як толькі прыйшоў у школу ў Коматаўцах, спачатку на рускай мове. Калі пацікавіўся беларускай мовай, пачаў — ужо ў Баброўніках, у васьмідзесятыя гады — пісаць па-беларуску. Высылаў у „Ніву". У той час не было „Гарадоцкіх навін", дзе публікуюцца таксама творы мясцовых аўтараў, дзе пачытаць можна творы сяброў літаратурнай групы „Каласы".

— Калі штосьці новае напішу, адразу цяпер друкуюць у нашых „Гарадоцкіх навінах". Праўда, група цяпер сціхла, адкуль памёр Кастусь Казлоўскі. Не хапае кагосьці, каб зaахвоціў цэлыя „Каласы". Няма Кастуся, няма арганізатара. Няма каму аб гэта задбаць. І па Кастусю трэба было б якуюсь памятку зрабіць. Кніжкі ён свае не меў. Добры хлопец быў. Таленавіты, працавіты. Яшчэ калі ў нас малачарні былі па вёсках, ён ездзіў па іх як кантралёр, потым кудысь даязджаў, быў качагарам, а пад канец працаваў у гарадоцкай школе, быў „возьным", сантэхнікам. Спрыт да ўсяго меў! І засталіся мы адны — я, Анатоль Парэмбскі, Стась Дамброўскі з Сафіполя, Раман Іванюк, Ніна Цыванюк... Калі нейкая культурная імпрэза, Раман едзе па Анатоля, па мяне, і едзем разам.

— А ці вы „старэеце"!.. Надалей займаецеся „народнай творчасцю" — як вас прылічылі ў ваяводскіх спісах народных творцаў.

— Тачу час да часу, ды рукі ўжо баляць. Час ад часу езджу з нашымі калектывамі на выступленні, бяруць мяне з сабою. Былі ў Варшаве, у Беластоку, у Крынках... А мае „цацкі" — і ў Амерыцы, і ў Нямеччыне. Прыязджаюць турысты, набываюць на памятку. Гэта па-аматарску, каб час заняць, не як вытворчасць. Сам праектую, што мне мой „камп'ютар" падкажа. Найбольш з драўніны грушы, яблыні, слівы. Драўніна мусіць быць сухая, бо пасля лопае... Цяпер тачу ў бярозе, як пападзецца. Калі быў у Баброўніках, было мне лягчэй з драўнінай — а то ў полі хтосьці зрэжа грушу ці яблыню, ці ў садзе старое дрэва, што ўжо не пладаносіць. Можна было якую галіну абрэзаць. Я не меў чым ездзіць, каб звозіць. „Тачку" маю — ровар...

Дзяцей у іх было двое. Засталася адна.

— Цяжкі ўспамін... Сын кончыў Вайсковую тэхнічную акадэмію, інфарматыку ў Варшаве. Працаваў напачатку ў Кракаве, пасля ў Варшаву забралі яго ў генеральны штаб. Ды што ж, мусіў усё пакінуць, і гэты свет пакінуць раптам. Вельмі добры хлопец быў па кожнай прыкмеце, ад школы. На яго пахаванне прыехалі настаўнікі, якія яго вучылі ў Педагагічным ліцэі, калегі і знаёмыя са Шчэціна, Катавіц, Глівіц... Было яму 37 гадоў.

І Кастуся Казлоўскага шкада. Быў ён добрым арганізатарам, чалавекам. Што зробіць, не пакіруем лёсам...

Пісаў і для дзяцей. Унуку, калі быў малы. А для іншых? А ў самы апошні час? Ляжаць тры сшыткі на сталe, лістаюць старонкі спрацаваныя далоні.

— Ці мяне лянота не ахапіла? Я ж стары. Гультай. — І да работы... Сёлета і зіма была, і вясна, а нічога не вытачыў... І нічога не напісаў.

— То ж вы не ўседзіце!

— Не, да работы ён не гультай, — кажа жонка Галіна. — Але да пісання... Мог бы ўспаміны пісаць, а прозай не любіць, прасіў у яго Зелянкевіч з Азяран, гісторык, што займаецца „крэсамі ўсходнімі", каб напісаў успаміны. Хай уручную, ці на друкавальнай машынцы, а маем іх дзве, адна — з кірыліцай, даччына. Схацець бы...

— Трэба было б „управу" схапіць. Калісь пісаў спраўна на машынцы, — прагаварвае Федзюкевіч.

— Але і ўручную — ты так выразна пішаш, што кожны прачытае, — прапракае спадара Яна жонка. — А ўнук Міхалка надрукаваў бы... Але праз тую траўму, сынаву смерць, неяк не можа справіцца з сабою. Неяк не можа ўспамінаць, хоча забыць, ізаляваць тое, што прыносіць боль. Ды і не хоча... пісаць прозай. Вершаваная мелодыя больш яму даспадобы.

— Пазваніў мне Яська Карповіч, — спахапіўся Ян Федзюкевіч, — каб штосьці на „Сяброўскую бяседу" напісаць. І вось думаю.

Міра ЛУКША


Міра Лукша і Янка Федзюкевіч

ISSN 0546-1960